BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 11(24) Сьнежань 1995 December Год выд. 3

# Вясёлых Калядаў, Шчасьлівага Новага 1996-га Году і Сьв. Богаяўленьня!!!

*Жадае Ўсім чытачам газэты — Выдавец.*



*Нараджэньне Тваё, Хрысьце Божа наш, асьвяціла людзей сьвятлом розуму. Бо тыя, што служылі зоркам, зоркаю-ж былі навучаныя пакланяцца Табе, Сонцу праўды, і ведаць Цябе, Усходзе з вышыняў. Госпадзе слава Табе!*

*Паводле ЛУКІ*
Разьдзел 2.

1. У тыя дні выйшаў ад кесара Аўгуста загад зрабіць перапіс па ўсёй зямлі.

2. Гэты перапіс быў першы ў праўленьне Квірынія Сірыяй. І пайшлі ўсе запісвацца, кожны ў свой горад.

3. Пайшоў таксама і Язэп з Галілеі, з горада Назарэта, у Юдэю, у горад Давідаў, называны Віфляемам, бо ён быў з дому і роду Давідавага,

5. запісацца з Марыяю, заручанаю яму жонкай, якая была цяжарная.

6. Калі ж былі яны там, настаў час радзіць Ёй;

7. і нарадзіла Сына Свайго першынца, і спавіла Яго, і паклала яго ў яслі, бо ня было ім месца ў гасьцініцы.

8. У той краіне былі на полі пастухі, якія трымалі начную варту каля статку свайго.

9. Раптам зьявіўся ім анёл Гасподні, і слава Гасподняя апраменіла іх; і спалохаліся страхам вялікім.

10. І сказаў ім анёл: ня бойцеся; я ўзьвяшчаю вам вялікую радасьць, якая будзе ўсім людзям:

11. бо сёньня нарадзіўся вам у горадзе Давідавым Збаўца, Які ёсьць Хрыстос Гасподзь;

12. і вось вам знак: вы знойдзеце Дзіця ў пялюшках, *Яно* ляжыць у яськах.

13. І раптоўна зьявілася з анёлам шматлікае войска нябеснае, славячы Бога і заклікаючы:

14. слава ў вышынях Богу, і на зямлі мір, і ў людзях добрая воля.

15. Калі анёлы адыйшлі ад іх на неба, пастухі сказалі адзін аднаму: хадзем у Віфляем і паглядзем, што там сталася, пра што абвясьціў нам Гасподзь

16. І пасьпяшаўшыся, прыйшлі, і знайшлі Марыю і Язэпа, і Дзіцятка, Якое ляжала ў яслях.

17. А ўбачыўшы, расказалі пра тое, што было абвешчана ім пра Дзіцятка Гэтае.

18. І ўсе, хто чуў, дзівавалі з таго, што расказвалі ім пастухі...





Спадар Анатоль ЛУК'ЯНЧЫК — ведамы бізнэсман, філантроп, царкоўны і грамадзкі дзеяч ды непахісны беларускі патрыёт і незалежнік.

Дарагі Анатоль! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае беларускае газэты.

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПА ЗАПРАШЭННЮ ГЕЛЬМУТА КОЛЯ

**По запрашэнню канцлера ФРГ Гельмута Коля дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, член палітсавета Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька ўдзельнічаў у рабоце 7-га з'езда партыі ХДС/ХСС Германіі.**

У час сустрэч беларускага парламентарыя з Г. Колем, Т. Вайгелем, К. Ламерсам і іншымі вядомымі нямецкімі дэмакратамі адбыўся абмен думкамі аб некаторых аспектах унутранай і знешняй палітыкі дзвюх краін, а таксама абмеркаваны магчымасці супрацоўніцтва Беларусі і Германіі на міжпарламенцкім і міжпартыйным узроўнях.

*Геапалітыка*

## РАСІЯ СТРАЧВАЕ ПАЗІЦЫІ НА СУСЬВЕТНАЙ АРЭНЕ

**ЗВЯЗДА**

СЁННЯ ГЕАПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА Расіі застаецца галоўным болем яе кіраўніцтва, што адначасова дае пажыву для разважанняў і прагнозаў мясцовых і замежных журналістаў і аналітыкаў. Апошнія амаль аднадушна прыходзяць да высновы, што ў перадзеле свету, які адбыўся за апошнія дзесяцігоддзе, Расія вельмі страціла свае пазіцыі. Як сведчыць замежны друк, у 1965 годзе СССР кантраляваў трэцюю частку свету, у той час як ЗША — 55 працэнтаў, Германія і Францыя — па 2 працэнты. У 1985 годзе ЗША мелі 75 працэнтаў, а ўплывовасць СССР зменшылася да 20. 1995 год паказаў, што Расія як пераемніца СССР захавала толькі 5 працэнтаў сусветнага кантролю, уплывовасць ЗША зменшылася да 65 працэнтаў, затое імкліва на міжнародную арэну выйшла Германія, якая цяпер кантралюе 15 працэнтаў краін, Францыя сферу свайго ўплыву павялічыла да 4 працэнтаў, а на поўдні з'явіліся новыя краіны ўплыву — Кітай (2 працэнты) і Турцыя (2 працэнты). Што датычыцца былых рэспублік СССР, то прыбалтыйскія краіны адразу сталі зонай асаблівай увагі Германіі, ЗША і Швецыі, а каўказскія — Турцыі.

Выйшэйшыя ж органы ўлады Расіі ў гэты час надоўга завязлі ў вырашэнні дробных міжусобных унутраных праблем, упусціўшы стратэгічную, таму сёння Масква як ніколі стаіць перад неабходнасцю хоць як-небудзь замарудзіць падзенне свайго аўтарытэту на сусветнай арэне, каб не згубіцца там наогул. Гэтым тлумачыцца яе новая палітыка ў адносінах з сусветнай супольнасцю, што было яскрава прадэманстравана падчас вырашэння праблем балканскага канфлікту, калі пазіцыі Расіі Захадам проста не браліся пад увагу. Новая палітыка праяўляецца і ў адносінах да краін—удзельніц СНД. «Стратэгічны курс» з'явіўся нездарма. І Беларусь тут адыгрывае не апошнюю ролю: Крэмль усё часцей пачаў паварочвацца да афіцыйнага Мінска тварам. У Маскве нарэшце зразумелі, што ўступленне былых сацыялістычных краін Цэнтральнай Еўропы ў НАТО непазбежнае, таму мець «суверэнную» Беларусь у якасці буфера ніколі не пашкодзіць. І пры гэтым зусім не трэба замахвацца на яе незалежнасць, а проста зрабіць саюзніцай. Нездарма на нядаўнім «круглым стале» «Беларусь — Расія: стратэгія партнёрства» расійскія палітыкі засяродзілі ўвагу менавіта на ваенных пытаннях. Яны нават не баяліся разважаць пра тое, ці будуць у Беларусі стаяць расійскія ракеты, не зважаючы пры гэтым на бяз'ядзерны статус і імкненне нашай рэспублікі да нейтралітэту. Таму геапалітычныя праблемы нашай усходняй суседкі, асабліва ў святле апошніх ідэй канферэнцыі, не могуць не турбаваць нашых грамадзян.

Безумоўна катастрафічнае падзенне сусветнага ўплыву Расіі пачалося не з Чачні, але грамадзянская вайна стала той рысай, пасля якой Захад адкрыта прадэманстраваў свае адносіны да Масквы, увёўшы супраць яе санкцыі. Пачалося «выпіхванне» Расіі з Еўропы. Хаця некаторыя заходнія аналітыкі лічаць, што гэта не зусім так. Напрыклад, нямецкі палітолаг Вілі Хенс гаворыць: «Мы зусім не вярнуліся да звычайнага вобраза агрэсіўнай і імперыялістычнай Расіі. Мы толькі хочам, каб Расія стала стабільнай, бо тут шмат інтарэсаў нашых бізнесменаў, шмат укладзена грошай». Аналагічнай думкі прытрымліваецца і часопіс «Тайм»: «Многіх на Захадзе хвалюе тое, што вайна ў Чачні зусім не стала ізаляванай падзеяй. Людзі, якія рызыкуюць сваімі грашыма, непазбежна робяць з гэтага негатыўныя высновы». Так, вайна ў Чачні прымусіла многіх бізнесменаў, што кінуліся асвойваць расійскія прасторы, задумацца над пытаннем: а ці кантралюе наогул хто-небудзь сітуацыю на гэтых прасторах? Пасля дзесяцігоддзяў жыцця з вобраза «злога рускага мядзведзя» не так лёгка пераключыцца на вобраз «рускага партнёра».

Па-ранейшаму шмат хто на Захадзе ўспрымае сучасную дэмакратыю ў Расіі «ваўком у авечай шкуры» і ўпэўнены, што краіна паверне назад у сваім развіцці ці спыніцца на якой-небудзь форме антыдэмакратычнага праўлення. Які сэнс тады рызыкаваць, будуючы з ёй нейкія адносіны? Такім чынам, па Еўропе зноў блукае прывід «жалезнай заслоны». Шэраг еўрапейскіх аналітыкаў даюць у сваіх разважаннях зразумець, што Расія — перашапачаткова чужы свет, у адносінах з якім неабходна прымяняць іншыя крытэрыі, чым тыя, што дзейнічаюць з саюзнікамі. Расія не саюзнік ужо таму, што аб'ектыўна з'яўляецца геапалітычным канкурэнтам Захаду. І Чачня ў гэтай сітуацыі стала толькі падставай для таго, каб паказаць, што падзел на «сваіх» і «чужых» захоўваецца. Таму ў справы «не сваёй» сферы Захад не ўмешваецца, але і ў «свае» (напрыклад, Югаславію) Расію не дапусціць.

Ёсць нават сцвярджэнні, што гістарычны канфлікт паміж усходам і захадам Еўропы, які раздзяляў кантынент амаль усё XX стагоддзе, завершаны. Вайна ў Чачні замацавала тое, што стала вынікам паслаблення савецкага камунізму і пройгрышу ім тэхналагічнага і ваеннага саперніцтва з Захадам. Цэнтральная Еўропа канчаткова выйшла з расійскай сферы ўплыву. Новы тэрытарыяльны падзел Еўропы вырашыўся пасля ўводу войскаў у Чачню. Цэнтральная Еўропа запатрабавала для сябе гарантый, а Паўночнаатлантычны альянс не замарудзіў іх даць. Таму пашырэнне НАТО на Усход канчаткова пакажа, што «жалезная заслона» перамясцілася на мяжу паміж каталіцкім і праваслаўным светам. І ў гэтым сэнсе Беларусь, дзе гэтыя дзве рэлігіі якраз сутыкаюцца, трапляе не ў самую лепшую сітуацыю, выйсце з якой хаваецца якраз, відаць, у паўнацэнным нейтралітэце.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## УВАГА!!!

Гэтым падаецца да ведама, што газэта на стала зьмяніла № Fax. Номер тэлефону застаецца той самы. Глядзі ўверсе...

## ВЫБАРЫ Ў БЕЛАРУСІ

**Чарговыя выбары ў Вярхоўную Раду Беларусі, якія адбыліся 29 лістапада 1995 г. ня выявілі ніякіх неспадзевак. Гэтым разам у Вярхоўную Раду Беларусі прасунулася 20 дэпутатаў, з якіх 5 — камуністы, а 15 розныя іншыя, у гэтым ліку і спадар Дабравольскі, ведамы малады беларускі дзеяч. Каб Вярхоўная Рада Беларусі набыла сваю правамоцнасьць да нармальнае працы, патрэбна дабраць яшчэ 35 чалавек.**

**Другі тур выбараў мае адбыцца 10 сьнежня гэтага году і трэба спадзявацца, што патрэбная колькасьць кандыдатаў будзе выбрана. Кандыдаты дэмакратычнага накірунку м[illegible] добрыя шансы прайсьці другі тур пасьпяхова, але гэта ў вялікай меры залежыць ад іх самых, як яны здолеюць пераканаць ня вельмі разумны электарат у сваёй слушнасьці. Хутка пабачым...**

**Зянон Пазьняк у сваёй новай акрузе на Смаргоншчыне ня быў выбраны ў дэпутаты. Праіграў малою колькасьцю недабраных галасоў. Ёсьць дагадкі, што ў гэтай акрузе адбыліся парушэньні права, каб за ўсякую цану не выбраць З. Пазьняка. А шкода. Такім чынам гэтая акруга застанецца без свайго дэпутата на невядомы час. Як на доўга, цяжка сказаць.**

**М.**

## Герояў цяпер не шануюць

**На жаль, перасталі цяпер у нашай краіне з належнай пашанай ставіцца да Герояў сацыялістычнай працы. Раней ім і гонар і павага, кожны пастаў міліцыянт пры сустрэчы пад казырок браў. А сёньня...**

65-гадовы Герой сацыялістычнай працы сп.Бельскі, некалі паважаны ў Горацкім раёне чалавек, ехаў на сваіх "Жыгулях" у райцэнтар. На дарозе яго спыніе інспэктар ДАІ ды бачыць, што геройкіроўца на добрым падпітку. Міліцыянт пачаў пратакол складаць, аднак Бельскаму гэта не спадабалася, і ён схапіў інспэктара за грудзі. Каб супакоіць былога старшыню калгасу, міліцыянт вымушаны быў выхапіць пісталет і двойчы стрэліць у паветра.

**Валодзя ЯНЧУК**

NEW YORK -- AT&T would like to remind travelers from the United States visiting Belarus and 14 other countries throughout Eastern Europe that they may call home as quickly and easily as possible using direct services from AT&T.

Since 1988, 15 Eastern European countries have agreed to provide direct access to the United States through AT&T. Belarus joined the prestigious list in October.

Callers in Belarus may call the United States by first dialing 8, wait for the dial tone, then dial 800-101. Users can dial the calls themselves, or be connected directly to an English-speaking AT&T operator in the United States. These calls may be billed to an AT&T Calling Card, AT&T Universal Card, local telephone company card or bill as a collect call.

Direct service to the United States through AT&T is also available from Armenia, Croatia, Czech Republic, Estonia, Hungary, Latvia, Lithuania, Macedonia, Poland, Romania, Russia, Slovak Republic, Ukraine and Uzbekistan.

**AT&T Access Codes from Eastern Europe**




| Country | Service Date | Access Code |
|---|---|---|
| Armenia | 11/92 | 8^14111* # ** |
| Belarus (Minsk, Brest, Grodno and Vitebsk only) | 8/95 | 8^800-101+ ++ |
| Croatia | 4/91 | 99-385-0111+ |
| Czech Republic | 1/93 | 00-800-0010# |
| Estonia | 8/94 | 8-10-800-1001 |
| Hungary | 10/88 | 00^800-01111* # |
| Latvia | 6/95 | |
| w/in Riga | | 7007007 |
| outside Riga | | 8^27007007* |
| Lithuania | 6/93 | 8^196* + |
| Macedonia, F.Y.R. | 11/93 | 99-800-4288# ## |
| Poland | 3/91 | 0^0-800-111-1111* ** # |
| Romania | 8/92 | 01-800-4288# + |
| Russia (Moscow) | 11/92 | 155-5042# + |
| Slovak Republic | 1/93 | 00-42-000-101# ** |
| Ukraine | 12/93 | 8^101-11* ** |
| Uzbekistan (Tashkent only) | 11/95 | 8^ 661-744-0010* ++ |

* Callers must first dial local operator number and wait for tone (signified by "^") before dialing rest of number
** May not be available from every phone/payphone
# Public phones require coin or card deposit
## Public phones require local coin payment through call duration
+ Not available from public phones
++ Not yet available from all areas

# Усенароднай падтрымкі рэферэндуму не было

***Алег ТРУСАЎ, народны дэпутат Вярхоўнага Савета РБ, старшыня Рады ТБМ Савецкага раёна г.Менска***

Калі мы глянем з вамі на вынікі так званага рэферэндуму, то тут асабліва няма чаго палохацца, бо ўсе прагнозы сацыёлагаў паказалі, што за дзяржаўнасць рускай мовы прагаласавалі толькі 53 працэнты насельніцтва **ад усіх выбаршчыкаў**. Па сімволіцы атрымалася толькі 48,4 працэнта выбаршчыкаў, — гэта пры ўсіх падтасоўках. У руках арганізатараў рэферэндуму ўсё было, і тым не менш усенароднай падтрымкі яны не атрымалі.

Наце вам рэферэндум, наце вам «мусульманскі» сцяг, а што рабіць далей? А далей у пенсіянераў і інвалідаў забралі бясплатны праезд, забралі іх пенсіі. Такі рэальны вынік. І зараз мы павінны вельмі ўважліва гэты момант скарыстаць у сваёй дзейнасці. А дзейнасць сваю накіраваць па месцы жыхарства, у сваім доме, у сваім працоўным калектыве. Першая мэта, самая галоўная — масавасць нашага Таварыства. У Менску за беларускую мову прагаласавала больш за 120 тысяч чалавек. І гэта толькі ў Менску. Таму Таварыства беларускай мовы трэба нарэшце ператварыць у сапраўды масавую народную арганізацыю. Другая мэта. Захаваць беларускую школу ў той мяжы, у якой мы можам абавязкова захаваць беларускамоўныя патокі студэнтаў ВНУ. Для гэтага нам трэба ўзяць на ўлік кожнага беларускамоўнага вучня і студэнта — па суполках, па школах, па класах. Выйсці на кожную сям'ю і выказаць ад імя ТБМ падзяку. У Савецкім раёне зараз засталося ў беларускамоўных першых класах прыкладна 400 вучняў, бацькі якіх свядома і мужна сваіх дзяцей пакінулі ў беларускамоўных класах.

Трэба абавязкова захаваць сваю газету і, больш таго, заснаваць свой часопіс, магчыма, пад назвай «Наш край», — адрадзіць той, стаптаны ў трыццатыя гады сталіністамі часопіс, які ў свой час рабіў беларускую справу. Тым больш, што хутчэй за ўсё пасля Новага года знікнуць нашы гістарычныя часопісы. Ёсць такія звесткі, што іх фінансаванне будзе абрэзана.

Прапаную сябрам ТБМ змяніць прынцып працы на месцах. Час мітынгаў, шэсцяў і дэманстрацый прайшоў. Зараз трэба працаваць па мікрараёнах, па школах, па месцах жыхарства дзяцей. Звярнуць увагу на Саюз фалькларыстаў, на Саюз народных майстроў, на народныя і рэлігійныя святы, — гэта значыць, уступіць у цесны саюз з беларускамоўнымі вернікамі, каталікамі, праваслаўнымі, пратэстантамі, народнымі майстрамі і фалькларыстамі, а таксама з тымі людзьмі, якія працуюць з народам непасрэдна — на сцэне, на вуліцы. Я хацеў бы сказаць таксама, што ўсе мы — былыя савецкія людзі, і таму ўсе гэтыя заганы трэба проста перажыць. І не трэба думаць, што за адзін гэты дзень нешта зменіцца. Тут справа цэлага пакалення. І калі мы паглядзім, што зроблена, дапусцім, толькі ў нашым Савецкім раёне г.Менска, то можна сказаць, што мы стварылі Беларускі гуманітарны ліцэй, перавялі на беларускую мову выкладання педагагічнае вучылішча і дапамаглі яму атрымаць новы будынак. Дзякуючы нам беларуская мова выкладаецца як прадмет у Політэхнічнай акадэміі і ў Менскім дзяржаўным універсітэце інфармацыі і электронікі. Будзем працаваць.

*"Наша Слова"*

## БЕЛАРУСКІ АЎТАМАБІЛЬ: ЯК ХУТКА МАРА СТАНЕ ЯВАЙ?

**Што перашкаджае беларусам абзавесціся аўтамабілем, які сыходзіў бы з рэспубліканскага канвеера? Як звычайна, справа тармозіцца адсутнасцю фінансавых сродкаў. Не так даўно вяліся размовы аб рэалізацыі праекта праз стварэнне сумеснага прадпрыемства паміж Гродзенскім заводам карданных валоў і АТ «КамАЗ» для выпуску легкавога аўтамабіля «Ака». Быў атрыманы дазвол Гродзенскага аблвыканкома па размяшчэнню СП на ГЗКВ, складзены і зацверджаны Дзяржкампрамам графік асноўных этапаў работ, пачата падрыхтоўка кадраў. Сумеснае прадпрыемства намячалася як зборачная вытворчасць. На першай стадыі меркавалася толькі прамое дубліраванне прадукцыі. Аднак рэалізацыя гэтага праекта ў яго пачатковай форме прадугледжвала шырокую дзяржаўную падтрымку і аказалася немагчымай з-за жорсткай фінансавай палітыкі ўрада.**

Праўда, пачатая прыватызацыя дала гэтаму праекту "другое жыццё". Падрыхтаваны праект, які з'яўляецца прамым прадаўжэннем прыцягнення інвестыцый для стварэння на базе ГЗКВ сучаснага прадпрыемства па выпуску малалітражных аўтамабіляў. Ён падрыхтаваны па заказу ААТ «Белкард». Галоўнай мэтай гэтага праекта з'яўляецца стварэнне вытворчасці, здольнай забяспечыць загрузку наяўнага ў Беларусі навукова-тэхнічнага патэнцыялу і задавальненне попыту насельніцтва Паўночна-заходняга рэгіёна СНД у эканамічным, надзейным і даступным аўтамабілі.

Паколькі тут размова ідзе аб рэалізацыі інвестыцыйнага праекта, які патрабуе значных укладанняў і, магчыма, змены профілю прадпрыемства, то мяркуецца, што будзе забяспечана выкананне такіх умоў, як неабходны аб'ём гарантый для інвестара (у выглядзе кантрольнага пакета акцый) для ўкладання патрабуемых сродкаў і захаванне кіруемасці прадпрыемства для дзяржавы (не менш як 25 працэнтаў акцый.

Для гэтага прапануецца выставіць на конкурс частку пакета, які знаходзіцца ў распараджэнні Міндзяржмаёмасці, захаваўшы за дзяржавай не менш 25 працэнтаў акцый. Другую ж частку пакета прапануецца сфарміраваць з акцый, якія размеркаваны паміж членамі працоўнага калектыву ў працэсе льготнага продажу, з тым, каб агульная колькасць прадаваемых акцый склала не менш як 50 працэнтаў.

Цяпер справа за малым: знайсці інвестара, які будзе ўдзельнічаць у конкурсе і які прапануе найлепшыя ўмовы выканання канкрэтных інвестыцыйных праграм.

*"Звязда"* **Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ВЫСТУПІЎ ПА-БЕЛАРУСКУ І САРВАЎ АПЛАДЫСМЕНТЫ

**Пасля вядомага рэферэндуму па мовах, неяк стала дрэнным тонам сярод пэўнай часткі вядомых дзеячаў выступаць на афіцыйных мерапрыемствах на роднай беларускай мове.**

Вось і ў час прэзентацыі адукацыйнай праграмы адкрытай школы бізнесу Брытанскага адкрытага універсітэта гучалі пераважна руская і англійская мовы. Нават Станіслаў Шушкевіч, дырэктар Еўрапейскага інстытута сацыяльных і палітычных даследаванняў, а ў нядаўнім мінулым Старшыня Вярхоўнага Савета, які тады добра, я сказаў бы, натуральна гаварыў у парламенце, па тэлебачанні і г. д. на сакавітай беларускай мове, сваю прывітальную прамову гаварыў па-руску.

Як і астатнія прамоўцы, акрамя Анатоля Майсені, прэзідэнта Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад», які выступіў па-беларуску і сарваў апладысменты.

Што датычыць Брытанскага адкрытага універсітэта, то гэта даволі цікавая ўстанова. Ён быў заснаваны ў Вялікабрытаніі ў 1969 годзе. За непрацяглы тэрмін яго існавання больш чым у 300 цэнтрах універсітэта ва ўсім свеце прайшлі курс навучання больш за два мільёны чалавек. Прадстаўніцтва ў Мінску, а дакладней, яго адкрытай школы бізнесу па СНД, працуе з сакавіка 1993 года. У ёй ужо атрымала веды не адна сотня нашых суайчыннікаў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## Яшчэ пра хлопчыка з Менску

**Апошняя лекарская праверка выявіла, што Уладз. Курэйчыку (11 гадоў) патрэбна яшчэ адна апэрацыя сэрца. Трэба заладзіць яшчэ адну дзірку ў сэрцы. Апэрацыя гэтым разам ня будзе такой складанай, як папярэдняя. Цяпер Уладзімер ужо пачаў наведваць школу. Пра далейшы ход лекаваньня хлопца з Менску будзем паведамляць...**

# З пісьма да прыяцеля

Самыя гарачыя ўражанні ад наведання Бацькаўшчыны крыху астылі і цяпер мой расказ можа будзе больш памяркоўны. Цяжка нават акрэсліць пачуццё, выклікане пабыўкай у родных мясцінах. Будучы ў сям'і майго брата ці тваёй сястры ўсё паказваецца нармальным, свойскім, блізкім сэрцу. Хопіць высунуць нос вонкі, напрыклад, у напалову пустую краму, што прыпамінае саракавыя гады сваім неахайным выглядам ці на пошту альбо ў касу нейкага вакзала, вернешся балюча хворы ад некультурнасці (мякка кажучы), абыякавых адносін з боку прадаўшчыц ці чыноўніц, якія лічаць сябе ў сваіх паводзінах кімсьці ад каго ты — інтруз — залежны. Паспрабуй пазвані ў справачную тэлефонаў у Лідзе з пытаннем пра код у Праважу. Пачуеш адказ-пытанне: „Какую цебе яшчо Праважу?" і бразгат трубкі тэлефона. Ты сам, паводле яе, а не яна, павінен ведаць, што трэба прасіць на Воранава ці мо на Забалаць. Дык звоніш яшчэ раз, але ўжо пытаеш яе манераю: „Номер на Воранава дай". Яна Табе адтрайкоча „трататата", так што ты не толькі не запішаш, але нават не пачуеш, і маментальна адключаецца. Тады нехта, што сочыць за табою збоку, вырывае ад цябе трубку і звоніць на той самы нумар з рэкламацыяй: „Ты что, обнаглела окончательно, не сможешь человеку объяснить как следует номер на Вороново, а то я тебе поищу". Тады толькі атрымаеш зразумелы адказ не з абавязку, не з-за ветлівасці, але з-за страху, што пэўна нехта важны, а не звычайны, спакойны грамадзянін, уступіўся за дзядзьку, што пытаў яе „на вясковай мове".

Мімавольна насоўваецца думка, што такая адна з другою вернецца дамоў і стане нармальным чалавекам — зусім іншым, ахопленым турботай як накарміць дзяцей, дагадзіць мужу, каб без аплявухі абышлося і т.д. Спаткаўшы паўсюдна такія адносіны, падумаеш: „Мой Божа, за што Ты пакараў той спакойны працавіты народ, адкуль узялося ў яго столькі расчараванасці?" Да чаго давялі яго тыя нечысці? Але сам народ ужо гэтага так востра не адчувае. Ён пакорна працуе без зарплаты па 3—4 месяцы, корміцца тым, што выгадуе на сваіх сотках, з'ездзіць на сяло бульбу капаць, за што мяшок для сябе атрымае і так існуе ў безнадзейнасці. Ды што ж ты можаш яму сказаць пра палітыку, нацыянальную свядомасць ды якісь там гонар. Гэта для яго абстракцыя, выдумка, пра якую нават небяспечна ўспамінаць у пару, калі ўсе старыя „парадкі" вяртаюцца.

Па радыё плывуць (з „громкоговорителя") адны толькі салодкія да млосці „памясныя" інфармацыі пра дасягненні калгасаў і т.д. Іншых не пачуеш і не прачытаеш, а калі заікнешся, што тыя калгасы паводле іншых статыстык у 90% чакаюць датацыі дзяржавы, палічаць цябе варожым прапагандыстам, ну зусім як у „залатую" сталінскую эпоху.

Праўда, вядучыя рэдактары на радыё бяруць інтэрв'ю па-беларуску, але ўсе адказы суразмоўцы даюць на „общепонятном языке исключительно". Ды няма чаму дзівавацца людзям, бо які дырэктар ці іншы чыноўнік хацеў бы страціць пасаду з-за „безграмотности"?

Наваградак астаўся ў маёй памяці як калыска беларускасці і бастыён яе дык вельмі ж цягнула мяне туды. Мэтай былі адведзіны ўдавы па маім прыяцелю Алесю, які таксама як і я, быў накіраваны нашым незалежніцкім рухам на працу ў СБМ, а пасля вайны дзяліў са мною лёс у Карлагу. Цяпер толькі жанчына „адкрылася", што вярнуўшыся з лагера Алесь быў безупынна пад наглядам НКУС. Кожная чарговая яго адмова супрацоўніцтва адбівалася праследаваннем, што давяло таго спакойнага чалавека да глыбокай неўрастэніі і ў рэшце рэшт — да смерці. Паразіла мяне нечаканасць, што ідучы цераз Наваградак на кожным кроку чуецца выключна „лукашэнкаўская" моўная трасянка, якую ўважаюць тут за расейскую. Хіба што спаткаеш вясковых суседзяў, якія саромеюцца між сабою прыдурваца і „рэжуць" па-свойму.

У Лідзе вельмі добра зарганізаваныя каталікі. За справаю „місіянераў" — ксяндзоў з Польшчы, якія „адкапалі" і зашчапілі сваім парафіянам прысвоеную ім у мінулым польскім касцёлам мянушку „палякі", а каталіцкае веравызнанне назвалі польскім. 30% каталіцкага насельніцтва ў Лідзе (у адносінах да агульнай колькасці жыхароў горада) абслугоўваюць два аграмадныя касцёлы. Клір жыве ў трох касцельных дамах, якія адрозніваюцца шыкарнасцю ад навакольнага будаўніцтва. У большасці гэта прышэльцы з Польшчы — у сярэднім каля дзесяці ксяндзоў (лік іх мяняецца). Безупынна вядуць яны заняткі з дзяцьмі і моладдзю і выконваюць канфесійныя паслугі. Пры выдатнай дапамозе глемпаўскай імперыі завяршаецца пабудова трэцяга велізарнага касцёла, што велічынёй не ўступае не абы-якой базіліцы. На пытанне да жанчын пасля набажэнства, ці яны зразумелі, што ксёндз гаварыў, адказ быў просты: „Што ж тут панімаць; гавары пацеры як цябе навучылі і ўсё паніманне". Адна з жанчын дабавіла: „Быў тут адзін ксёндз Ігар, што гаварыў па-просту — па-нашаму, але яго хутка забралі і кажуць, што выслалі ў Польшчу".

Каля 60% насельніцтва Ліды — праваслаўныя — маюць адну драўляную царкоўку на старых могілках. Пачатая 3—4 гады таму будова царквы перапынілася на фундаменце. Прыхаджане скардзяцца, што маладога святара айца Васіля, які энергічна ўзяўся за будову, здабыў сярод людзей аўтарытэт і пашану, хутка абсадзіў стары благачынны, філарэтчык, адабраўшы яму якую-колечы ініцыятыву.

Вось тут і прыпомнілася мне Твая заўвага, братка, што „Филарет филаретствует по-своему". Думаю, што каментарый тут быў бы лішні, але ўсё ж насоўваецца пытанне, ці тут справа ў адным Філарэце ці яго людзях, калі прэтэндуем звацца вольным народам?..

Янка Жамойцін

*Ніва 26.11.1995*

## БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ: РУХ НАСУСТРАЧ

**Дзяржаўная дума Расіі 20 кастрычніка прыняла пастанову аб развіцці інтэграцыі паміж Расійскай Федэрацыяй і Беларуссю. Пракаменціраваць гэты дакумент карэспандэнт БЕЛТА Валянціна МЕНШЫКАВА папрасіла старшыню Камітэта Дзяржгдумы РФ па справах СНД і сувязях з суайчыннікамі Канстанціна ЗАТУЛІНА, які пабываў гэтымі днямі ў Мінску.**

***— Канстанцін Фёдаравіч, ці звязана прыняцце гэтай пастановы з Заявай вышэйшай палаты Федэральнага сходу аб правядзенні ў Расіі рэферэндуму па пытанню паглыблення эканамічнай і палітычнай інтэграцыі з Беларуссю?***

— Напрамую звязана. Аб гэтым гаворыць і трэці, апошні пункт пастановы, дзе сказана: «Разгледзець пытанне аб неабходнасці правядзення ўсерасійскага рэферэндуму аб адносінах з Рэспублікай Беларусь пасля выпрацоўкі праграмы развіцця інтэграцыі паміж Расіяй і Беларуссю». Аднак заўважце, што аб галоўным — праграме збліжэння — гаворыцца ў першых двух пунктах пастановы. Дзяржгдума вырашыла, па-першае, «рэкамендаваць Прэзідэнту Расійскай Федэрацыі прадставіць на разгляд Федэральнага сходу РФ праграму інтэграцыі паміж Расіяй і Беларуссю. Па-другое, «прапанаваць Прэзідэнту Расійскай Федэрацыі ўтварыць дзяржаўную дэлегацыю РФ на перагаворах з Рэспублікай Беларусь з удзелам прадстаўнікоў урада РФ, Савета Федэрацыі і Дзяржаўнай думы Федэральнага сходу РФ для вядзення перагавораў, падрыхтоўкі заканадаўчага забеспячэння працэсу інтэграцыі і вызначэння канкрэтных формаў збліжэння паміж дзвюма краінамі». Менавіта канкрэтную падрыхтоўку інтэграцыйных працэсаў дэпутаты Думы паставілі ў аснову, а не правядзенне рэферэндуму.

***— Якія ж тады матывы аказалі ўплыў на прыняцце Думай гэтай пастановы?***

— Перш за ўсё, мае калегі ўзялі пад увагу ратыфікаваны намі раней Дагавор аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Расіяй і Беларуссю, іншыя пагадненні, якія адлюстроўваюць сапраўдны і патэнцыяльны стан працэсаў рэінтэграцыі дзвюх дзяржаў.

Не засталіся не заўважанымі намі і вынікі праведзенага 14 мая ў Беларусі ўсенароднага рэферэндуму, які пацвердзіў імкненне беларускага народа да яднання з Расіяй. На падставе вышэйсказанага Дума заявіла аб сваёй поўнай падтрымцы паглыблення інтэграцыі паміж нашымі краінамі. Дэпутаты Дзяржгдумы лічаць, што далейшае іх збліжэнне адпавядае карэнным інтарэсам і спадзяванням народаў Расіі і Беларусі, будзе садзейнічаць павышэнню іх дабрабыту, пераадоленню крызісных з'яў у грамадскім развіцці, з якімі сутыкнуліся абедзве краіны, развіццю славянскай культуры, умацаванню міжнароднага аўтарытэту Расіі і Беларусі.

***— А якая Ваша асабістая пазіцыя ў гэтым пытанні?***

— Як прынцыповы прыхільнік уз'яднання Расіі і Беларусі хачу заўважыць, што ўзнікае небяспека выкарыстання папулярнай і безумоўнай ідэі рэінтэграцыі тымі палітыкамі і тымі палітычнымі структурамі, якія саўдзельнічалі ў ператварэнні мільёнаў людзей з нашых суграмадзян у суайчыннікаў за мяжой...

Як хочацца таварышу Затуліну "прытуліць" Беларусь... Ох, як ён гэтага хоча, але беларускія незалежнікі таксама ня сьпяц...

*Звязда*

# ІНТЭГРАЦЫЯ ЦІ АБ'ЯДНАННЕ?

## *Расія не ведае дакладна, што лепш выбраць*

**У канцы мінулага тыдня ў Мінску адбылася даволі прыметная падзея. У Міжнародным адукацыйным цэнтры адбыўся «Круглы стол «Беларусь—Расія: стратэгія партнёрства». Ён быў прысвечаны стану і перспектывам беларуска-расійскіх адносінаў. Ініцыятарам і арганізатарам гэтай сустрэчы беларускіх і расійскіх палітыкаў, аналітыкаў, палітолагаў стаў Нацыянальны цэнтр стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад».**

Мэта «стала» — пошук новых, узаемапрымальных і ўзаемавыгадных формаў супрацоўніцтва, асэнсаванне інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй, спроба даць новы магутны імпульс фарміраванню стратэгічнага партнёрства ў інтарэсах нашых народаў. Наконт «магутнага імпульсу» не ведаю, а вось тое, што ў значнай ступені ўдалося праясніць пазіцыі, падыходы абодвух бакоў, гэта бясспрэчна.

Аргкамітэт «круглага стала» прапанаваў наступны сцэнарый сустрэчы: параўнанне двух поглядаў — з Мінска і Масквы на шляхі далейшай інтэграцыі дзвюх краін. Меркаванні прадстаўнікоў беларускіх уладаў, палітыкаў, партый і рухаў на гэты конт увогуле знаёмы нашай грамадскасці. Таму, думаецца, ёсць сэнс больш дакладна пазнаёміць чытачоў з выказваннямі расійскіх удзельнікаў «стала».

Адразу заўважу: іх «погляд з Масквы» на мой погляд (прабачце за каламбур), адэкватна не адпавядаў складанасці і злабадзённасці вынесенага на абмеркаванне пытання прадуманасцю, узважанасцю, канструктыўнасцю прапаноў, што звычайна ўласціва працэсу выпрацоўкі стратэгічных рашэнняў.

Нават грунтоўны, палемічна завостраны даклад Анатоля Майсені, незалежнага эксперта і аднachасова прэзідэнта цэнтра «Усход—Захад», прысвечаны рэабілітацыі цвярозага сэнсу ў адносінах паміж Беларуссю і Расіяй, не «справакаваў» гасцей з блізкага замежжа. Хаця спадар Майсеня гаварыў не зусім прыемныя рэчы. Напрыклад, што ёсць пэўныя сілы, якія пад прыкрыццём лозунгаў аб інтэграцыі спрабуюць аднавіць былую Савецкую імперыю, на першым часе ў рамках Расіі і Беларусі. Тут і ідэя беларускіх уладаў аб канфедэрацыі, і магчымы вядомы рэферэндум у Расіі, і падтрымка яго Саветам федэрацыі Расіі.

На думку дакладчыка, усё гэта ўносіць асабліва трывожную актуальнасць у адносіны паміж дзвюма краінамі. Фарсіраванне інтэграцыйных працэсаў, не звяраючы іх з рэаліямі жыцця, прынясе толькі шкоду, дасць адваротны эфект. Гэта тым больш небяспечна, што менавіта беларуска-расійскія адносіны могуць аб'ектыўна стаць мадэллю разумнай, збалансаванай і паступовай інтэграцыі ў рамках СНД. Сёння ж паспешванне гэтага працэсу прывядзе да страты суверэнітэту Беларусі. Акрамя таго, Расія сама не гатова да аб'яднання, бо яе палітычная нестабільнасць, вайна ў Чачні, пераходны стан эканомікі, высокі ўзровень крыміналізацыі грамадства робіць нерэальным хуткае аб'яднанне Беларусі з Расіяй.

Расіяне рэагавалі на падобную пастаноўку пытанняў надзвычай памяркоўна, вельмі дыпламатычна, быццам бы не Беларусь, а Расія з усіх сіл імкнецца да аб'яднання з намі. Прычына гэтай памяркоўнасці, здаецца, не ў тым, што гасцей сваім дакладам застаў знянацку Майсеня. Відаць па ўсім, расійскія ўдзельнікі «стала» не мелі (а можа, не хацелі раскрываць яе) дакладнай, на ўзроўні канцэпцыі, пазіцыі па праблеме ступені інтэграцыі.

Так, у агульным плане яны ўсе былі «за». Палітычныя выгоды для Расіі тут агульнавядомыя. Але вельмі глыбокая ўзаемапранікальная інтэграцыя прынясе з сабой і шэраг вельмі складаных праблем. Стрыманая занепакоенасць гэтым прагучала і ў дакладзе Аркадзя Мошэса, загадчыка сектара Інстытута Еўропы Расійскай акадэміі навук, асноўнага выступаючага ў раздзеле «Погляд з Масквы». Яго даклад называўся: «Расія—Беларусь: старыя праблемы і новыя перспектывы».

Зараз, на думку Аркадзя Львовіча, Расія знаходзіцца ў пошуку надзейнага і натуральнага партнёра. І надзейнасць тут з'яўляецца вельмі сур'ёзным крытэрыем. Гэта абумоўлена і тым, што сёння сітуацыя ў Еўропе рэзка змянілася, НАТО пагражае пашырэннем за кошт краін Усходняй Еўропы, у выніку чаго рэальным становіцца размяшчэнне там ядзернай зброі. Не радуе Расію і пагаршэнне адносінаў з Украінай. А тут Беларусь гатова да інтэграцыі. Расія не супраць, хаця ўжо прадказвае моцнае процідзеянне заходнееўрапейскай дыпламатыі, асабліва пазіцыю Польшчы, як суседкі Беларусі.

Але Мошэса больш хвалявалі аспекты ваенна-палітычнага супрацоўніцтва, у прыватнасці статус Беларусі як бяз'ядзернай дзяржавы. Занепакоенасць прагучала ў дакладзе масквіча і тым, як рэальна забяспечыць суверэнітэт Беларусі ў час практычнага збліжэння, каб яна потым не пашкадавала. «Як гэта зрабіць?» — паставіў эксперт пытанне, але не адказаў на яго.

Як не адказалі і іншыя расіяне ў час дыскусіі. Эміль Паін, намеснік начальніка Аналітычнага ўпраўлення Прэзідэнта Расіі адзначыў, што праблема гэта вельмі складаная. Ужо шмат спекуляцый, домыслаў, а то і палітычных плётак ходзіць у Маскве аб Расіі і Беларусі. Нават ёсць анекдатычныя сцвярджэнні, што ў новым дзяржаўным утварэнні на базе дзвюх краін Аляксандр Лукашэнка займе пасаду віцэ-прэзідэнта. Эміль Абрамавіч спыніўся на аналізе сацыялагічных даследаванняў сярод расіян наконт праблем СНД. Аказваецца, 59 працэнтаў з іх не цікавіць тое, што адбываецца за межамі Расіі.

Увогуле, расіяне не супраць інтэграцыі з той жа Беларуссю, але, па словах Э. Паіна, як толькі ў Расіі чуюць аб тым, што інтэграцыя прывядзе да эканамічных складанасцей у штодзённым жыцці, то імгненна мяняецца арыентацыя апытаных людзей не ў лепшы бок у адносінах да гэтай праблемы.

Э. Паін слушна заўважыў, што многія прыхільнікі глыбокай інтэграцыі краін, на жаль, аперыруюць больш паказчыкамі на пальцах, чым канкрэтнымі разлікамі. Ён прызнаўся, што адзіная перашкода для інтэграцыі — гэта стан эканомік дзвюх дзяржаў. І ў гэтай сферы павінна весціся асноўная работа.

Не ўнёс яснасці і Генадзь Зюганаў, дэпутат Думы і лідэр расійскіх камуністаў. Не ведаю, наўмысна ці не, але ён «зацыкліўся» на аспектах жорсткага ўсеагульнага крызісу Расіі, які яна перажывае пасля развалу СССР з удзелам каварнага Захаду. Яго выступленне насіла больш прапагандысцкі характар, чым канструктыўны. Маўляў, без глыбокай інтэграцыі краін СНД ніхто з іх у бліжэйшыя 20 гадоў не здолее наладзіць нармальныя вытворчы працэс. Пад усю эканоміку закладзены міны запаволенага дзеяння. Ён пералічыў гэтыя міны: «тэхналагічная», «сельскагаспадарчая», «сацыяльная», «інфармацыйная» і г. д.

Дарэчы, калега Зюганава, першы сакратар ЦК партыі камуністаў Беларусі Сяргей Калякін сказаў, што хаця ён і яго паплечнікі заклікаюць стварыць новы саюз дзяржаў, але пакуль не маюць распрацаванага дакумента, які рэгуляваў бы адносіны членаў гэтага саюза.

Дэпутаты расійскай Думы Уладзімір Аверычаў і Мікалай Сталяроў, гаворачы на тэму стратэгіі партнёрства Расіі і Беларусі, нічога стратэгічнага не сказалі. Першы закрануў ужо вядомыя эканамічныя аспекты гэтай праблемы. Другі выступіў эмацыянальна, я нават сказаў бы з мітынговым запалам, заклікаў да больш цеснай інтэграцыі славян. На яго «погляд з Масквы», пацярпела поўны крах ідэя нястрымнай суверэнізацыі і трэба хоць часткова вярнуцца да былога агульнасаюзнага рынку. Сталяроў папярэдзіў: калі хутарское мысленне ўкраінскай вярхушкі будзе перанесена на Беларусь, то яе чакае катастрофа — хуткая, рашучая, незваротная.

Нягледзячы на дэкларатыўнасць выступленняў большасці расіян, тым не менш, «круглы стол» стаў станоўчай з'явай у палітычным жыцці нашай краіны. Беларускія ўдзельнікі адчулі складанасць адносінаў Расіі, яе адказнасць у адносінах да гэтага кроку, вынікаў інтэграцыі. А расіяне з першых вуснаў пачулі шырокі спектр часам узаемавыключных поглядаў, думак, меркаванняў наконт шляхоў далейшага збліжэння дзвюх краін.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# Урад Беларусі паказвае МВФ фокус

*"Свабода"*

**Выдаткаваньне Беларусі другога транша крэдыту stand by адкладваецца да таго часу, пакуль наш урад не пацьвердзіць узятыя раней абавязацельствы, замацаваныя ў мэмарандуме аб эканамічнай палітыцы, што быў накіраваны ў Раду дырэктароў МВФ напярэдадні выдаткаваньня першага транша крэдыту.**

Да такой высновы прыйшлі экспэрты місіі МВФ, што інспэктавалі на працягу двух тыдняў у Менску выкананьне Беларусяй абавязацельстваў перад Міжнародным валютным фондам. На прэс-канфэрэнцыі 14 лістапада пастаянны прадстаўнік МВФ у Беларусі Іштван Салкай заявіў, што місія не змагла закончыць агляд з прычыны рознасьці падыходу МВФ і беларускага ўраду да пытаньня дэфіцыту бюджэту на наступны год. МВФ настойвае, каб дэфіцыт бюджэту ў наступным годзе не перавышаў 3%. У той час як беларускі ўрад лічыць гэты паказьнік невыканальным. Акрамя таго, місія настойвае на правядзеньні ў Беларусі структурных рэформаў, паказьнікі якіх, замацаваныя ў мэмарандуме. Беларускі ж бок нават адмовіўся паказаць прадстаўнікам МВФ праграму прыватызацыі, якую нібыта падпісаў прэзідэнт Беларусі.

Дарэчы, ніякіх новых патрабаваньняў да беларускага ўраду МВФ не выстаўляў. Місія патрабавала падпісаць фармальны ліст да кіраўніцтва Рады дырэктароў МВФ, дзе пацьвярджаліся б абавязацельствы Беларусі перад МВФ. "Адмова беларускага ўраду падпісваць гэты ліст, можа быць расцэненая МВФ як адмова ад далейшага супрацоўніцтва. Да такіх фокусаў у МВФ ставяцца вельмі адмоўна", – заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ адзін з удзельнікаў перамоваў, які пажадаў застацца невядомым. Чакаецца, што місія МВФ зноў наведае Менск у сярэдзіне наступнага месяца.

**Ю.К.**

## І ЗНОЎ "ЗАМЕЖЖА НАМ ДАПАМОЖА"?

Пачаліся падрыхтоўчыя работы па выратаванню вежаў замка ў Навагрудку — помніка дойлідства XIII--XVI стагоддзяў. Аднаўленнем яго займецца беларуска-польскае СП "Рэнаватум" на чале з вядомым беларускім рэстаўратарам С.Друшчыцам.

Зараз праводзяцца даследаванні на Замкавай гары, вывучаецца стан старажытнага падмурка замка. Адначасова ідзе і ўдакладненне праекта рэстаўрацыі, які быў зроблены спецыялістамі з Польшчы.

Але вось праблема -- падрыхтоўчыя работы "праглынулі" ўжо усе 60 мільёнаў рублёў дзяржаўнага бюджэту, якія былі накіраваны на гэтую справу ў бягучым годзе (ці ж гэта грошы па сучасных мерках?). Хутчэй за ўсё ў наступным годзе дзяржава наогул фінансаваць рэстаўрацыю не будзе.

Уся надзея на магчымую фінансавую дапамогу з боку Польшчы. Але чаму, скажыце, суседняя краіна павінна фінансаваць рэстаўрацыю беларускага замка? Ці ж нам самім не сорамна?.. Дададзім толькі, што тая ж Польшча пасля заканчэння вайны ляжала ў руінах, але ў першую чаргу сродкі былі накіраваны на аднаўленне разбураных шматлікіх помнікаў дойлідства. Няўжо зараз Беларусь знаходзіцца ў горшых умовах, чым Польшча пасля вайны?

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# Дружыць з усімі і быць незалежнымі

*"Наша Слова"*

Мова, як вядома, асноўны сродак культуры. Але так атрымалася, што пытанне мовы ў нас нашы нядобразычліўцы зрабілі фактарам палітыкі. Таму я не магу абысці палітычнае пытанне і закрану трошкі палітыкі, якая звязана з нашым становішчам.

Часта людзі задаюцца пытаннем: дзе ж выхад з эканамічнага крызісу? У гуманітарнай сферы ўзнікае такое ж пытанне з мовай. А выхад ёсць. І выхад вельмі просты: адстаўка Аляксандра Рыгоравіча. А пакуль гэта пытанне вырашыцца, у нас ёсць магчымасць заняцца канкрэтнай работай. Я хацеў бы закрануць тэзісна некаторыя аспекты, якія, на маю думку, трэба ўсведамляць. Па-першае, уся наша гісторыя, усе нашы дачыненні — і палітычныя, і сацыяльныя ў значнай ступені, і культурныя залежаць ад узаемаадносінаў з Расіяй. Тая сітуацыя, якая ўтварылася сёння ў Беларусі, таксама ёсць вынік такіх узаемадачыненняў. Мы павінны гэта ўсведамляць. Пакуль мы будзем знаходзіцца ў сферы інтарэсаў Расіі, пакуль застаемся залежнымі ад яе палітычна і эканамічна — мы будзем адчуваць вынікі расійскай імперскай палітыкі. Гэта аксіёма, якую трэба не забываць. Інакш у нас будуць пастаянныя пошукі выхаду з крызісу.

Тую сітуацыю, якая ўтварылася ў беларускай палітыцы, можна ацаніць, як бліскучую перамогу расійскага КДБ на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі. Тая палітыка, якая зараз праводзіцца, выклікае ў нашых людзей абурэнне і апеляцыю нават да свядомасці Аляксандра Рыгоравіча: як жа, маўляў, гэта так? Хіба ж так можна? Гэта ж у цывілізаваным свеце, у нармальным грамадстве так не робіцца і г. д.

Аднак рэжымам пастаўлена зусім іншая задача. Гэта як у байцы «Воўк і ягня». Воўку проста хочацца есці. І ўсё. Так і тут. Супраць Беларусі зараз вядзецца «халодная вайна» з боку Расіі. Гэту вайну праводзяць адпаведная палітычныя колы і адпаведныя расійскія службы цераз «пятую калону» ў Беларусі, якая зараз мае доступ і да сродкаў масавай інфармацыі, і да палітыкі. Гэта ўсялякія славянскія саборы і інш. Такая палітыка ( заснаваная на «пятай калоне») даволі небяспечная. Гістарычны вопыт паказвае, напрыклад, як адбыўся аншлюс Аўстрыі (далучэнне да Германіі). Падкідваюцца, напрыклад, адпаведныя ідэі, уцягваецца грамадская думка ў абмеркаванне нейкай «інтэграцыйнай» ідэі славянства і г.д. Абсалютна, дарэчы, пустая справа, таму што ніякія саюзы, ніякія канфедэрацыі па расавых, па этнічных прыкметах не заключаюцца і не адбываюцца. Гэта палітычны анахранізм. Гісторыкі і палітыкі гэта ведаюць. Тым не менш, такую ідэю пастаянна прапануюць, вядзецца адпаведная палітыка і ставяцца пэўныя палітычныя мэты на ілжывай аснове. Яны, гэтыя мэты, не перспектыўныя, не стваральныя, але распаўсюджвальнікі ідэі славянства зусім і не рупяцца пра стваральнасць.

Важна, каб любымі спосабамі загнаць Беларусь у Расію. Калі ўсю гэту палітыку, уявім сабе, прадоўжыць да лагічнага канца, то наш аўтарытарны рэжым (а гэты рэжым развіваецца), калі яго не спыніць, прыйдзе да тэрору. Можаце ў гэтым не сумнявацца. Пачынаецца са знішчэння беларускіх школ, правядзення ашуканцкіх рэферэндумаў (любы рэферэндум, які праводзіць урад,канчаецца перамогай улады). Пачынаецца з дыктавання сачыненняў школьнікам, з кантролю над падручнікамі, потым узнікне кантроль над выказваннямі, над думкамі, над сям'ёй і г. д. І канчыцца фізічным вынішчэннем іншадумцаў. Не спыніцца ніколі той, каму хочацца есці.

У Законе аб міліцыі і іншых законах ёсць такія палажэнні: калі міліцыянер атрымлівае загад, які супярэчыць закону, ён не абавязаны яго выконваць. Калі рэжымам парушаюцца законы, Канстытуцыя, правы чалавека, запісаныя ў Канстытуцыі, то чалавек мае права не падпарадкоўвацца такім указам, а народ мае права на пратэст, бо адзінай крыніцай дзяржаўнай улады на Беларусі, як запісана ў Канстытуцыі, з'яўляецца народ.

У заключэнне скажу наступнае: пытаннямі мовы займаюцца дзяржава і грамадства. Зараз наша дзяржава ў руках антынацыянальных сіл. Праводзіцца антыбеларуская палітыка. Але ў грамадства застаецца магчымасць працаваць і падтрымліваць тую палітыку, якая выгадна нацыі, якая выгадна культуры. Тут шмат што залежыць ад характару, ад волі чалавека, ад яго энергіі, ад яго пасіянарнасці, жадання працаваць і ўмення змагацца. Вельмі добрыя ідэі і праграмы разбіваюцца аб пасіўнасць, аб страх, аб няздольнасць супраціўляцца. Таму я хацеў бы пажадаць кожнаму з вас, і сабе ў тым ліку, адчуць чалавечую годнасць і абавязак перад нацыяй, народам і культурай. А абавязак гэты — супраціўляцца і рабіць.

Яшчэ я хацеў бы прапанаваць з'езду прыняць заяву, у якой выказаць занепакоенасць антыканстытуцыйным працэсам і пратэст супраць знішчэння дэмакратыі. Думаю, што мы не павінны як грамадская арганізацыя заставацца абыякавымі, калі адбываецца гвалт над законамі і нахабнае парушэнне Канстытуцыі, калі абражаюць народ, прылюдна зневажаюць людзей — праз указы і сродкі масавай інфармацыі. Мы павінны рэагаваць на гэта, выказваць адносіны да падзей — адносіны сумленных людзей, выяўляць пратэст супраць антынацыянальнай палітыкі.

Я таксама мяркую, што дэлегаты з'езда выкажуць шкадаванне з-за паводзінаў і імкнення расійскай Думы ўмяшацца ва ўнутраныя справы Беларусі, стварыць імперыялістычны націск на нашу дзяржаву і незалежнасць. Такое не можа спрыяць добрым дачыненням. Паўтараю, што мы як грамадзяне не можам заставацца ўбаку ад падзей у краіне. Бо калі мы не адлюструем і не дадзім ацэнку ў нашых дакументах таго гвалту, які зараз адбываецца, таго здзеку і зняважы над культурай і беларускім народам — грош нам цана.

# Лявон СЛУЧАНІН

**25 кастрычніка 1995 года на 82-м годзе жыцця памёр беларускі пісьменнік Лявон Случанін (Лявонцій Раманавіч Шпакоўскі).**

**Нарадзіўся Лявон Случанін 15 кастрычніка 1914 года ў вёсцы Лучнікі, што на Случчыне. Пасля вучобы ў сямігодцы два гады займаўся ў Слуцкім педтэхнікуме, а затым — на літфаку Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута, які закончыў у 1936 годзе.**

**Далей жыццё Лявона Случаніна складвалася нялёгка і няпроста. Педагагічная дзейнасць перапынялася доўгімі гадамі паднявольнай працы на Беламорска-Балтыйскім канале, у Варкуцінскіх шахтах. Гэткім жа няпростым быў і яго творчы лёс.**



**Першыя вершы былі надрукаваны ў зборніку "Песняры Случчыны" (Мінск, 1943). Яго паэма "Рагнеда" выдавалася ў розныя часы ў Вільні (1944), у Аўстраліі (1958). У газеце "Калійшчык Салігорска" ў 1991—1992 гадах друкаваўся раман "Алесь Няміра". Асобныя творы змяшчаліся ў часопісах "Спадчына", "Полымя", "Беларуская думка".**

**З 1973 года Лявон Случанін жыў у горадзе Салігорску, супрацоўнічаў з мясцовым і рэспубліканскім друкам. Яго творчыя інтарэсы былі скіраваны, галоўным чынам, у гістарычнае мінулае Беларусі. У лепшых вершах і паэмах лёсы лірычных герояў цесна знітаваны з лёсам народа на яго крыжовых шляхах, шмат у чым яны сугучны з лёсам самога паэта. У архівах Лявона Случаніна засталося шмат неапублікаваных твораў, якія рана ці позна знойдуць свайго ўдзячнага чытача.**

**САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

## ЕЎРАПАРЛАМЕНТ АСУДЗІЎ ДЗЕЯННІ БЕЛАРУСКІХ УЛАДАЎ У АДНОСІНАХ ДА СВАБОДНАГА ПРАФСАЮЗА РЭСПУБЛІКІ

**У Вярхоўны Савет Беларусі паступіла рэзалюцыя Еўрапарламента, у якой асуджаюцца дзеянні беларускіх уладаў у адносінах да Свабоднага прафсаюза рэспублікі.**

Паводле звестак БелаПАН, у рэзалюцыі, у прыватнасці, выказваецца шкадаванне і абурэнне ў сувязі з ушчамленнем правоў прафсаюзаў у Рэспубліцы Беларусь, а таксама ўтрымліваецца заклік да ўладаў рэспублікі дзейнічаць у поўнай адпаведнасці з канвенцыямі Міжнароднай арганізацыі працы, якія Беларусь у свой час падпісала. Еўрапарламент заклікае ўсе камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі пры ўступленні ў кантакт з выканаўчай уладай узнімаць пытанне аб парушэнні правоў прафсаюзаў. У рэзалюцыі Еўрапарламента таксама ўтрымліваецца заклік да Прэзідэнта А.Лукашэнкі адмяніць вядомы ўказ № 336, які фактычна паставіў па-за законам дзейнасць Свабоднага прафсаюза. Акрамя таго, Еўрапарламент заклікае беларускага Прэзідэнта прыняць «усе неабходныя захады для хутчэйшага вырашэння праблемы стварэння новага парламента, што дазволіла б аднавіць дэмакратычную заканадаўчую базу ў краіне».

Гэтая рэзалюцыя накіравана таксама ў Міжнародную канфедэрацыю свабодных прафсаюзаў, Сусветную канфедэрацыю працы і Міжнародную арганізацыю працы.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

## Вы хочаце галасаваць па-беларуску, а жыць па-нямецку? Не выйдзе!

Адзін замежны калега выказаў даволі трапную фразу:

— Вы хочаце галасаваць па-беларуску, а жыць па-нямецку? Не выйдзе!

І дадаў:

— Спярша навучыцеся гэтак жа сур'ёзна ставіцца да выбараў, як у Германіі, аддаваць галасы талковым нацыянальным палітыкам, у якіх баліць галава па Радзіме, а не балбатунам і абяцалкіным. Толькі тады ў вас з'явіцца шанц выйсці на дарогу прагрэсу і дабрабыту.

Коратка і ясна. Спадзяюся, што гэта трапнае выказванне дапаможа многім чытачам ясней зарыентавацца перад выбарамі.

**Алесь ДРАБОВІЧ.**

## Закрытая сустрэча ў касьцёле

**У панядзелак, 23 кастрычніка ў катэдральным касьцёле ў Менску адбылася сустрэча, якая мела закрыты характар, паміж кардыналам Казімерам Сьвёнтакам і Аляксеем Жыльскім, старшынём урадавага Савету па справах рэлігіі.**

Абодва бакі адмаўляюцца даць прэсе якую-небудзь інфармацыю. Аднак нам стала вядома, што Аляксей Жыльскі азнаёміў кардынала са сьпісам, у якім фігуруюць прозьвішчы 30 ксяндзоў-месіянэраў, якія павінны неадкладна пакінуць тэрыторыю Беларусі. Усе яны, як заявіў сп.Жыльскі, парушылі Палажэньне аб знаходжаньні сьвятароў і месіянэраў на тэрыторыі Беларусі.

Як мы ўжо паведамлялі, гэтае Палажэньне, якое было сёлета ў ліпені зацьверджана Кабінэтам міністраў, значна ўскладняе дзейнасьць усіх канфэсіяў, апрача праваслаўнай.

**Казімір ФУНТ**

## Паўстаў з попелу Божы храм

Другое жыццё атрымаў старажытны касцёл у Докшыцах, асвячэнне якога адбылося ў дзень святога Францішка. Храм, узведзены 350 гадоў таму, у 1943 годзе быў спалены. Аднавіць яго дапамаглі мясцовыя ўлады і жыхары раёна. На цырымоніі асвячэння касцёла прысутнічаў архіепіскап з Ватыкана Аўгусцін Маркета. Мясцовыя святары звярталіся да вернікаў на беларускай мове.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## НАДАКУЧЫЛА ХАДЗІЦЬ У ГЕРОЯХ

**Як паведаміла столінская раённая газета «Навіны Палесся», у раёне цяпер жывуць шэсць Герояў Сацыялістычнай Працы. Але з нядаўняга часу на адну «Залатую Зорку» тут стала менш. Былая свінарка калгаса «17 верасня» Ніна Колбік аддала сваю высокую ўзнагароду на пераплаўку, атрымаўшы такім чынам чатыры заручальныя пярсцёнкі і дзве пары завушніц. Адну пару Ніна Фёдараўна падарыла дачцэ, а другую — нявестцы.**

Цяжка сказаць, што штурхнула жанчыну на такі крок. Адны ў вёсцы кажуць, што зрабіць гэта яе прымусіла беднасць, другія мяркуюць, што званне Героя свінарцы было прысвоена па разнарадцы і яна ім ніколькі не даражыць. Як бы там ні было, але факт застаецца фактам.

Праўда, з пяці Герояў Сацпрацы, якія засталіся ў раёне, пераплавіць «Залатую Зорку» на сувеніры больш пакуль не дадумаўся ніхто.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

## Чаму няма лідскага піва?

Таму што большая частка пеннага прадукту ідзе расійскім грамадзянам. Айчынным аматарам застаецца нешта каля 20 працэнтаў. Вось чаму практычна немагчыма ўбачыць лідскае піва ў Мінску. Хіба што толькі на конкурсах.

Адзін з такіх конкурсаў прынёс нядаўна "серабро" і "бронзу" лідчанам. Таму ёсць стымул, каб варыць піва. Але для каго — для нас з вамі ці для іх? Пытанне застаецца адкрытым. Піва "Лідскае" каштуе каля 5 тысяч беларускіх "зайчыкаў". Дарагавата. Мінскія ж гатункі каштуюць прыблізна ад 3500 да 4 тысяч. Піўзавод у Лідзе зараз стаў закрытым акцыянерным таварыствам. Трэба апасацца, што мы ўвогуле забудзем "непаўторны ўстойлівы смак". Дык ці свету bear, ці нам з вамі?

**Сямён НАДСАН.**

АКТУАЛІІ

**Юрый Захаранка:**

# "Прэзідэнт самаўхіліўся ад барацьбы з карупцыяй і злачыннасьцю"

СВАБОДА
4 лістапада 1995 г., №48

*Былы міністар унутраных справаў лічыць, што цяпер у Лукашэнкі мэта адна: абсалютная ўлада. Але Захаранка перакананы, што "прыйдзе час, і кожны атрымае сваё"*

**У аўторак, 31 кастрычніка былы міністар унутраных справаў Юрый Захаранка правёў першую пасьля сваёй адстаўкі прэс-канфэрэнцыю.**

Былы міністар спачатку падрабязна спыніўся на абвінавачваньнях, якія прагучалі з вуснаў прэзідэнта падчас нядаўняй сустрэчы з вэтэранамі. Ю.Захаранка назваў гэтыя абвінавачваньні паклёпам і акрэсьліў іх мэту – абгрунтаваць адстаўку чалавека, што адстойваў прававыя прынцыпы кіраваньня краінай, ад якіх, на думку Захаранкі, прэзідэнт стаў крок за крокам адыходзіць. Сярод іншага гэта выявілася і ў такой справе, як барацьба з карупцыяй і злачыннасьцю. Праграма гэтай барацьбы самім жа прэзідэнтам "пасьняхова" праваленая, ён ад яе самаўхіліўся, – зазначыў Захаранка.

Экс-міністар рашуча адхіліў абвінавачваньні ў фінансавых злоўжываньнях. Дамову з немцамі на пастаўку для беларускай міліцыі спэцыяльных паліцэйскіх аўтамабіляў ён назваў вельмі выгаднай і пашкадаваў, што цяпер гэтыя пастаўкі будуць сарваныя. Чарговай "вуткай", разьлічанай на некампэтэнтных людзей, ён лічыць і заяву прэзідэнта пра катэдж за дзесяць мільярдаў, "які нібыта пабудаваў для сябе Захаранка". "На самай справе гаворка ідзе пра рамонт гатэля МУС, прызначанага для разьмяшчэньня замежных гасьцей міністэрства".

Дасталася і апошняй апэрацыі па ачышчэньні Камароўкі ад спэкулянтаў мясам, якую ўжо распрапагандавалі дзяржаўныя СМІ. Па словах Захаранкі, вынік ад падобных мерапрыемстваў толькі прапагандысцкі, што і даказала праведзеная на Камароўцы акцыя – дзьве няўлічаныя сьвінныя тушы ды некалькі пратаколаў на гандляроў за брудныя пазногці! Такімі справамі, па словах Захаранкі, павінны былі займацца і займаюцца звычайныя супрацоўнікі міліцыі кожны дзень і без шуміхі. Былы міністар МУС упэўнены, што падобныя акцыі – звычайная паказуха новага кіраўніцтва МУС, якое прыкрывае сваю непрафэсійнасьць.

**– У адным з інтэрвію вы заявілі, што ў ведамстве Замяталіна створана спэцыяльная група з 50 чалавек для збору і распаўсюджваньня кампрамату. Ці не маглі б вы паведаміць падрабязнасьці аб гэтай групе?**

– Так, прыкладна такая колькасьць там працуе. Гэтая група называецца прэс-служба і вынікі яе дзейнасьці вы хутка ўбачыце на прыкладзе маёй пэрсоны. Спадзяюся, што Лукашэнка ініцыіруе працэс. Пачнуць, як мне ўжо паведамілі, з таго самага гатэля МУС, пра які я згадваў. Гаворка ідзе ня толькі пра мяне. Прэс-служба такімі справамі і раней займалася ў дачыненьні да тых, хто ня быў даспадобы. *(Нагадаем апошні прыклад з С.Багданкевічам* – **А.Г.**).

**– Вашае стаўленьне да Ціцянкова?**

– У мяне з ім аднолькавая "любоў" з першага дня ўступленьня на пасаду. Я лічу, што Ціцянкову мы яшчэ зададзім шмат пытаньняў, калі пачнем будаваць сапраўды прававу́ю дзяржаву.

**– Як вы ацэньваеце тое, што Міністэрствам унутраных справаў зараз кіруе Віктар Шэйман?**

– Калі зампаліты роты ці батальёну будуць камандаваць Міністэрствам унутраных справаў, то "небясьпека" нам будзе гарантаваная. Гэта адназначна.

**– Што вы ведаеце пра замах на Аляксандра Лукашэнку пад Лёзна?**

– Якраз у той час я быў кіраўніком сьледчага камітэту, выяжджаў на месца здарэньня... Адкажу так: афіцыйныя вынікі сьледзтва, якія сьцьвярджалі, што замах быў, і мае прафэсійныя высновы вельмі адрозьніваюцца.

**– А калі больш шчыра?**

– Напрыклад, там, на месцы здарэньня, я дапытваў Ціцянкова і спытаў яго, як усё было? Ён сказаў: "Сітуацыя была наступная: хлапок – і я пачуў скрыгат мэталу ад кулі, што ўваходзіла ў машыну..." Больш можна было не пытацца...

**– Кажуць, вы маеце кампрамат на сёньняшніх вышэйшых кіраўнікоў. Калі гэта так, то ці зьбіраецеся яго абнародаваць?**

– Я не планаваў зьбіраць кампрамат. Іншая рэч, што мне па службе даводзілася займацца справамі, дзе фігуравалі тыя ці іншыя асобы... Мяркую, мы яшчэ знойдзем час, каб пагаварыць на гэту тэму.

**– Калі ў вас зьявіцца асабістая ахова?**

– Яе не было нават тады, калі я быў міністрам. Як прафэсіянал я добра разумею, што ніякая ахова не дапаможа. Калі будзе патрэба, няма вялікай цяжкасьці "прыбраць" любога, у тым ліку і прэзідэнта, нягледзячы на шчыльную ахову. Трэба ўзмацняць прававы парадак цалкам у дзяржаве. Гэта галоўнае.

**– Журналісты лічаць, што час ад часу прэзідэнта інфармуюць аб нейкіх змовах, спробах арганізаваць замахі на яго. Што вам пра гэта вядома?**

– Мне вядома, што гэта правакацыі, плод фантазіяў. Прэзідэнта трымаюць у страху і падпітваюць гэты страх дадатковай "інфармацыяй", за якой нічога няма.

**– А хто падпітвае?**

– Магчыма той, хто малюе сітуацыю.

**– Юрый Мікалаевіч, давайце вернемся да вобыску ў кватэры прэм'ера. Вы кажаце, што нічога пра гэта не ведалі. А хто ж даваў санкцыю?**

– Пракурор даваў санкцыю. Але мне больш за ўсё крыўдна, што прэзідэнт добра пра гэта ведаў, калі абвінавачваў мяне ў парушэньнях. У яго ж на стале ўсе паперы ў той час ужо ляжалі, але яму трэба было карту разыграць. Дадам яшчэ раз, што той вобыск праводзіўся ў маю адсутнасьць, мяне нават у рэспубліцы тады не было.

**– Скажыце, прыкладна колькі грамадзянаў у краіне знаходзяцца пад так званым вонкавым назіраньнем?**

– Чаму у вас такая тэрміналогія? Хіба ёсьць канкрэтныя дадзеныя? Я гарантую, што міліцыя такімі справамі не займалася. *(Пытаньне між тым існуе і, як прызнаў былы міністар ужо пасьля канфэрэнцыі, ён заўважыў, што асабіста за ім назіраньне вядзецца, хаця і на дастаткова нізкім прафэсійным узроўні.* – **А.Г.**).

**– Якую мэту перад сабой вы ставілі, калі арганізоўвалі прэс-канфэрэнцыю: гэта адказ прэзідэнту на абразы ці вы пажадалі апярэдзіць чарговы ўдар па сваёй асобе?**

– Спачатку я не зьбіраўся праводзіць аніякай прэс-канфэрэнцыі. Разышліся з прэзідэнтам і ўсё. Але пасьля таго, як з мяне зрабілі небясьпечнага дзяржаўнага злачынцу, я проста вымушаны нешта адказаць. Патлумачыць людзям, што я чысты перад імі і перад Беларусяй.

**– Цяпер вы ўступаеце ў палітыку...**

– Так, толькі я хацеў бы, каб мая палітыка была прававо́й палітыкай. Я за неабходнасьць забесьпячэньня хаця б мінімуму законнасьці, якая патрэбная сёньня краіне.

**– Ёсьць такая вэрсія вашай адстаўкі: Беларусь стаіць на шляху транзіту ў Эўропу рэдказямельных ды каляровых мэталаў, наркотыкаў, стратэгічнай сыравіны. Але беларускі МУС сваімі дзеяньнямі стаў перашкодай на шляху гэтага транзіту і таму крымінальныя элемэнты дапамаглі ў вашай адстаўцы. Вашае стаўленьне да такой вэрсіі.**

– Ведаеце, адным з накірункаў нашай дзейнасьці сапраўды было тое, аб чым вы кажаце. Беларусь – фарпост, які прыкрывае Заходнюю Эўропу. Вядома, што праз нашу краіну туды "паперлі" ўсе, у тым ліку і злачынцы. Вязуць наркотыкі і фальшывыя грошы, ня кажучы ўжо пра нелегальных мігрантаў. І невыпадкова, што мы не спрабавалі закрыць мяжу з Расеяй. Калі былі зьнятыя мытныя пасты на расейска-беларускай мяжы, то я паспрабаваў замест іх паставіць там пасты дарожнай міліцыі, каб перакрыць доступ у нашу рэспубліку для злачынцаў. На жаль, мне не ўдалося гэта зрабіць, не пасьпеў. Мы з усіх бакоў застаемся адкрытыя. Ці мы дзяржава, ці не? Цяжка ў такім становішчы наводзіць парадак у краіне.

**– Вы маглі б патлумачыць, як стварался тэкст прысягі ўнутраных войскаў, адкуль узьніклі ў ім словы "аб вернасьці прэзідэнту і Канстытуцыі"?**

– Я ў гэтым удзелу не прымаў, я заўсёды стаяў за вернасьць толькі Канстытуцыі. У гэтым, магчыма, і мая бяда...

**– Як вы прагназуеце: ці ўвядзе Лукашэнка у хуткім часе прамое прэзідэнцкае праўленьне?**

– Ня ведаю. Гэта залежыць, у тым ліку, і ад вас.

**– А як можна вызначыць мэту ягонай кадравай палітыкі?**

– Мэта адна – абсалютная ўлада, і больш нічога. Усе перастаноўкі, якія правялі альбо запланавалі на бліжэйшы час, вядуць нашу Беларусь у балота... Дарэчы, я хачу папрасіць супрацоўнікаў праваахоўных органаў сьціснуць зубы і працаваць. Нават у такіх умовах. Усё гэта часовае, яно міне. Наша справа – бараніць людзей. Акрамя нас, гэта рабіць няма каму. А час, калі кожны атрымае сваё, прыйдзе.

**– І калі ж прыйдзе гэты час?**

– Я ня думаю, што ў нашай краіне перамога той накірунак, які пераправае нас у рабоў. Гэтага ня будзе. Мы па сутнасьці сваёй не рабы, і глыбока памыляецца той, хто спадзяецца на славыя мэтады. Не атрымаецца. А тыя, хто робіць стаўку на такія мэтады, павінны ведаць, што давядзецца несьці адказнасьць, і вельмі строгую.

**Запісаў**
**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

ФАКСУЕ ПІНСК

## Сляды вядуць у Санкт-Пецярбург

Дэпутат гарадскога Савета Віктар Ярашук накіраваў прэзідэнту Расійскай Федэрацыі пісьмо, у якім паставіў пытанне аб вяртанні на Беларусь вывезеных у 1940 годзе ў Расію старажытных кніг з Пінскай каталіцкай семінарыі. Невядома, чытаў яго Барыс Ельцын ці не, аднак днямі з Масквы прыйшоў адказ.

Першы намеснік міністра культуры К.Шчарбакоў паведаміў пінскаму дэпутату, што праблемай займаліся Расійская дзяржаўная бібліятэка, Дзяржаўны гістарычны музей і Дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі, а таксама даслаў іх справаздачы. Найбольшую цікавасць мае інфармацыя пра тое, што ў бібліятэцы музея ў Санкт-Пецярбургу ўтрымліваецца 296 кніг выдання XVI—XVII стагоддзяў і пазнейшага перыяду на лацінскай і польскай мовах, на якіх стаіць штамп каталіцкай семінарыі. Апроч таго, у рукапісным архіве знойдзены "...4 адзінкі захоўвання, паходжанне якіх з семінарыі асаблівых сумненняў не выклікае".

Абяцанне расійскіх службовых асоб прадоўжыць пошук дадае аптымізму. Грамадскасць горада мае пэўныя падставы спадзявацца: каштоўная калекцыя, хоць і не поўнасцю, будзе вернута на Палессе.

*АКТУАЛЬНА*

*Кандрат КРАПІВА*

КАЗЁЛ

Ня помню дзе,
У адной авечай чарадзе
Павадыром хадзіў казёл.
І нават мне пастух казаў,
Што быў той барадаты
Нішто сабе адміністратар.
Ды ў тым загана ўся казлова,
Што па-авечы ён — ні слова;
Ці не хацеў, ці мо ня ўмеў,
Ці мо што іншае наўме
Трымаў стары,
А толькі факт — не гаварыў.
Дык гэта яшчэ мала,
Дый невялікая бяда —
Ён, кажуць, захацеў, брыда,
Каб з ім бляяла
Цалютка тая чарада
Няйначай
Як па-казьлячы.
Калі хто — бе, ён кажа: "Не!
Ляпей вучыся ад мяне,
І будзеш ты тады бляяць
На яць".
А хто ня ўмеў бляяць так чыста,
Таго ён лаяў шавіністам.

Ці жыў казёл, ці мо ўжо здох,
Аб тым дазнацца я ня мог,
А толькі вось чаго мне злосьць:
Яшчэ казлы такія ёсьць.

1927 г.

**НОВАМУ ПАРЛАМЕНТУ**

Будзе ў Мінску аж пяць год
Засядаць калгасны сход, —
І зімою, і вясною,
Каб усім хапала гною.

*Сакрат Яновіч*

# Беларусь забіваюць, ледзь нарадзіўшы

У Гродне даволі ўжо падобна, як і ў нас, толькі брудней, калтыжней. Калі хто хоча заходняга тавару, то купіць. За долары поўна яго, а адно цэны вышэйшыя, чымсьці ў Польшчы, што звязана з вялікімі падаткамі ў Беларусі. Гродна і Брэст уяўляюць сабою не шырокую паласу параўнаўчага дабрабыту; чым глыбей у Рэспубліку, тым галей. Справа ў спекулянцкім памежным гандлі: цягнікі з Беластока перапоўнены да немагчымага, здавалася б (я са сваім падарожным чамаданікам сілком убіўся ў вагон, кандуктар дацiснуў дзвярыма мне ў спіну, каб не выпасці на перон). Быў я найлягчэй гружаны чалавек на станцыі ў Саколцы, дзе пануючай моваю ёсць расейска-беларуская трасянка, з ужо польскімі дадаткамі.

Зноў валокся да савецтаў (па сваёй наіўнасці), будучы шумна запрошаным на другія Купалаўскія чытанні ў гарадзенскім універсітэце (3—6.X). Імпрэза аказалася прафесарскай, з планаванай лічбай дакладаў пад сорак на два дні пасяджэнняў, але, на маё шчасце, палова запрошаных не прыехала або праігнаравала мерапрыемства, нягледзячы на яго ўсебеларускі ранг. Нельга, аднак, разумець гэта як праяву злое волі. Прычына адсутнасці банальная: бракуе грошай на камандзіроўкі (для мяне не, бо я за свае з'явіўся). Тым не менш пачатак быў пышны, у актавай зале, у якую напрыходзіла студэнтаў. Меліся мы заслухаць перш прывітанні ад уладаў, у іх ліку і ад Міністэрства адукацыі і навукі, але ніхто з дзяржаўных ураднікаў не рачыў ушанаваць нас увагаю, палітычна слушным палічыўшы, відаць, што беларускае трэба традыцыйна глушыць у Рэспубліцы Беларусь... Іначай, зрэшты, не магло стацца: замест сімволікі Беларускай ССР, красаваліся не ў смак ім бел-чырвона-белыя колеры і Пагоня. Інтэлігенцыя ненавідзіць Лукашэнку, нават і тая рускамоўная, затое люд моліцца на яго, быццам на цудатворнага Міколу (акрамя, вядома, тых, хто паспеў пабываць хаця б у Беластоку). Таму так важнае захаванне празрыстасці дзяржаўных межаў, каб нічога добрага не бачыўшы народ крыху паездзіў па свеце.

Інаўгурацыйныя аратары гаварылі пра капітальнае: асэнсоўванне літаратурнай спадчыны Купалы на фоне сучаснага грамадскага стану Беларусі; паэзія Купалы як нацыянальная духоўная каштоўнасць; біблейскія вобразы і хрысціянскія матывы ў ягонай творчасці. Далі голас і мне, дарэчы: адзінаму замежнаму госцю. Выступаў я з тэмаю *Канец купалаўскай уяве нацыі.* Наша драма нават не ў мужыцкай абмежаванасці, а ў тым, што не ўдалося нам пасля 1920 г. прабіцца да ўласнае дзяржаўнасці, у чым зайздросцім сёння — не менш некалі халопскім — фінам, эстонцам, латышам, літоўцам і іншым **сялянскім** народам ажно па Македонію. Гэтая запознасць збеглася цяперашнім часам са знікненнем вёскі, а разам з ёю і мовы, што дае парадаксальны эфект існавання Рэспублікі Беларусь насуперак волі народных яе мас. Што і казаць: беларусы — гэта ўнікальнае дзіва, не нацыя, але **антынацыя**, а яе дзяржава павінна называцца, папраўдзе, Рэспублікай Антыбеларусь... Проста нававітная агіда да роднага слова бярэцца не з імкнення да, так званых, вышэйшых культураў; гэта ўсяго папулярны міф. Праўда тут вульгарнейшая — беларушчына засталася ў памяці пакаленняў як знак беднасці і забабонаў, таму адбываецца — гэтаксама забабонная — магія праклёну беларускаму слову, што павінна (на думку сучаснага язычніка) абараніць ад вяртання ў голад і лапці. У Беласточчыне пальшчызна і ў Рэспубліцы *русская словесность* маюць чарадзейна гарантаваць белы хлеб з маслам і шынкаю. Фінал таго няцяжка прадбачыць: дзесяцімільённую Беларусь Расея не возьме на сваё ўтрыманне толькі таму, што прэзідэнт постмужыкоў абяцае слёзна паўзці на каленях у Маскву. Большыя шанцы ў беластоцкіх халопаў: іх мала, пару сотняў тысяч, і да кагосьці ў прыпражку лягчэй упросяцца. Такі парабак надта ж працавіты!

Праграму Купалаўскіх чытанняў задумалі з перапынкамі на экскурсіі. Наведалі музей Максіма Багдановіча. У мяшчанскім доме, у якім пражыў ён з бацькамі каля пяці першых гадоў (на даўняй Новай Садовай). Ашаламіла мяне інфармацыя Данусі Бічэль, дырэктаркі і выдатнай паэткі ў адной асобе: цікавасць да гэтага святога месца блізкая нулю! Калі хто бывае тут, то — акурат — не людзі культуры, але тэхнікі, юрысты, майстры з фабрык, часам рабочыя. Гэта вынік нізкага статусу гуманітарных навук, куды ідуць вучыцца тыя, пераважна, каму не пашанцiла дастацца на *лепшы* факультэт. Адпадкі. Неўдалоцце.

Незабыўнае ўражанне пакінула азнаямленне з археалагічнымі раскопкамі на гарадзенскім замку, т.зв. Верхнім. Вецер гісторыі ўсенька засыпае смеццем і зямлёю; дзядзінец-гарадзень апынуўся пад дзесяціметровым слоем грунту (лічы — метр за стагоддзе). Вадзіў нас Алесь Краўцэвіч. Ён амаль паўжыцця тут **капаецца**. Сенсацыйна прагучэла яго тэза адначаснага ўзнікнення гарадоў у Панямонні якраз напрыканцы дзесятага стагоддзя, што трэба вязаць з уцякаючымі сюды славянскімі язычнікамі, якія не прымалі хрысціянізацыі Уладзімірам Вялікім сваіх уладанняў (988 г. і потым). Паміж Палессем і Нёманам не было тады Русі, а Яцвягія, яе ўсходнія воласці. Паслейшая Чорная Русь з Гародняй, Ваўкавыскам, Слонімам апынуліся ў абсягу рук кіеўскіх князёў не адразу; мелі месца шматлікія ваенныя паходы. Яцвягі хадзілі з разбоем па здабычу — таксама — і ў Польшчу, палячы тамашнія пасады. Даследаванні археолагаў паказваюць, што заснаваныя ў іх старонні славянамі дзядзінцы не былі імі атакаваныя; наадварот: адбываўся гандаль нарабаваным дабром, прыбывала будынкаў і месцічаў (мяшчанаў, так бы мовіць) з яцвяжскага наваколля. Гэты, няроўны цывілізацыйна, сімбіёз мусіў з вякамі закончыцца татальнай славянізацыяй. А пакуль што з'явіліся крыжакі, якія, разбіўшы — у палове трынаццатага стагоддзя — ядро Яцвягіі, ладзілі мечаносныя рэйды аж пад Наваградак, не раз штурмуючы і Гародню. Яны апусташалі ўсё тую ж Яцвягію з паўславянскімі на яе прынёманскім усходзе цвердзямі. Са старадаўніх хронік ведаем, што вадзілі з сабою перакладчыка з паняволенай Прусіі, дзеля перамоваў з гарадзенскімі абаронцамі. І яшчэ цікавінка: людзі тае пары, якую нам і ўявіць цяжка хоць на момант, былі дробнымі і нізкімі, ростам найчасцей крыху за паўтара метра. Што ж: не тая ежа і не тыя варункі, што цяпер. Шчыльнасць насельніцтва? Сённячы адна Гародня мае яго больш, чымсь уся тадышняя т.зв. Кіеўская Русь.

Расквартаравалі нас у турыстычнай базе *Нёман*, што ў дарэчным лесе. Усіх набіралася каля дваццаці чалавек і, бы тыя рыбкі ў акварыуме, удосталь наплываліся мы ў патрыятычна-беларускай тэматыцы. Ці пацікавілася намі нейкая тайная служба, сумняваюся; зусім без грамадскага значэння зборышча акадэмікаў, прафесараў, літаратараў *и прочих умников.* Адны — без публікі — дакладчыкі, нават і я. Пераконвалі пераконаных, усведамлялі ўсведамлённых. Нагадвала ўсё тое нараду рэдактараў поўнага збору твораў Янкі Купалы, з кампетэнтнымі каментарыямі, чымсьці Купалаўскія чытанні, менавіта, як публічную імпрэзу. Не скажу, сяго-таго карысна было паслухаць, але, разам з тым, і сумна рабілася на душы.

Не буду пераказваць рэфлексіяў наконт стану даследаванняў спадчыны Купалы, сітуацыі беларускай культуры, мовы. Абрыдла! І проста няма здароўя слухаць таго! А трэба ж пажыць, звычайна, зрабіць тое, што магчымае і яшчэ не страціла сэнсу.

У заканчэнне — банкет, неблагі для гэткае жменькі, бо разлічаны быў арганізатарамі на ўтрая люднейшую аўдыторыю. Займальна спяваў калектыў *Гарадніца*, трохі і архаічных песняў, ад якіх павеяла на мяне запамятанымі ўспамінамі бабулі пра паншчыну, карчму ў Крынках ля радзівілаўскага касцёла, і царскі маніфест аб адмене прыгону, прачытаны бацечкам пасля багаслужбы ў саламянай цэркаўцы, з якой вярталася яна дамоў у тое прадвесне басанож, пераскокваючы лапікі лёду і снегу з вурклівымі ручаінамі... І мой прадзед Антошка, буян ды вечны даўжнік карчмара Шлёмы.

Харысты як харысты: пяяць па-беларуску, дык чаму не, пяюць, і з натуральным акцэнтам, але, каб гаварыць, то не; рыхтык як нашы, беластоцкія, патрыятычныя напаказ. Людзі-шыльды ў крывіцкіх строях.

Вельмі шчасліва здарылася, што запрасілі і небезвядомага Віктара Шалкевіча. Яго прыватны канцэрт няхутка забудзецца. Паэт і бард, надзвычайная рэдкасці талент. Піша балады-эсэ, спявацкія трактаты пра Беларусь і беларушчыну, а ў іх цэлы свет выяўляецца, бы на фота-клішэ. Чаго толькі вартая такая яго фраза *Добрай раніцы, жлобская нацыя!*

І быццам у намёк на ўклад жыдоў у развіццё беларускай нацыянальнай культуры, а можа і антысемітам, якія забываюць, дзе аб'явіўся Бог і што Хрыстос гаварыў выключна па-жыдоўску (дакладней: па-арамейску), Шалкевіч праспяваў настальгічнае: *Пачакайце, жыды, пераменіцца час... Не ўцякайце...* Кантэкст тых радкоў нам, у Беластоцкім краі, можа аказацца незразумелы, але ў Беларусі ловяць тое *другое дно* ўмомант: жыд усяму вінаваты, а беларусу бракуе аднаго, крылаў анёла.

Потым, перад вяртаннем у свае Крынкі, паўночы прагаварыў я з Шалкевічам за вячэрай у Міхала Карневіча на старой Батанічнай у Гародні (рэдактар беларускай праграмы радыё Літвы). Дзеля хаця б гэтае сустрэчы варта было мне паехаць туды. І, нарэшце, памыўся ў даваеннай кватэры, адагрэўся, бо ў *Нёмане* не было такое раскошы, а спалася пад трыма пледамі, і ў свэтры нацягнутым на піжаму. Што ні вечар бачыў прэзідэнта Лукашэнку ў пакаёвым тэлевізары, які, на пацеху нічога не разумеючага ў сваёй нядолі народу, па-камісарску мяшаў з зямлёю міністраў і ўгадованых чыноўнікаў, усё роўна што ад тае ляянкі назаўтра як бы пасыплецца манна з неба. І смешна, і страшна, і жаль прасцякоў.

"НІВА"

"Свабодныя Прафсаюзы"

**Уладзімір АДАМУШКА:**

# ТРАГЕДЫЯ КАТЫНІ — ТРАГЕДЫЯ НЕ ТОЛЬКІ ПАЛЯКАЎ...

**З загадчыкам аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі Камітэта па архівах і справаводству, кандыдатам гістарычных навук У.І.Адамушкам гутарыць спецыяльны карэспандэнт «СП» Аляксандр Кійранен.**

**Кар:** — Зноў і зноў верасень будзіць памяць, вяртае нас у глыбіні гісторыі, трагічнай і павучальнай. Мінула 56 гадоў, як была развязана другая сусветная вайна... Развязана фашысцкай Германіяй пры поўным патуранні Савецкага Саюза. Больш таго, праз два тыдні пасля гітлераўскага нападу на Польшчу, Масква, можна сказаць, адкрыта падтрымала агрэсара, накіраваўшы свае войскі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Паводле сумна вядомага «пакта Рыбентропа — Молатава» быў ажыццёўлены падзел Польскай дзяржавы паміж Германіяй і СССР. Польскія воінскія часці, якім Варшава загадала не аказваць супраціўлення Чырвонай арміі, былі інтэрніраваны: салдат накіравалі ў калгасы і саўгасы — у Сібір і Казахстан, а генералаў і афіцэраў — у канцэнтрацыйныя лагеры НКУС. Потым сталінскія карнікі ўсіх іх знішчылі, у прыватнасці, у Катыні, што ў Смаленскай вобласці. Сёння Катынь у людской памяці ўспрымаецца як трагедыя палякаў. Але ж у Войску польскім на той час служыла афіцэраў і беларускага паходжання.

**Адамушка:** — На жаль, нашы дакументалісты пра гэта нічога не гавораць. Таму што тыя канцэнтрацыйныя лагеры, у якія былі накіраваны афіцэры Войска польскага, знаходзіліся — тры на тэрыторыі Расіі і адзін — на Украіне. Гэта — у Медным, Асташкаве, Казельскі і ў Юхноўцы.

Дарэчы, вельмі цікавыя дакументы сабраны нашымі польскімі калегамі. У Варшаве другі год дзейнічае Катынскі музей. Пра яго, праўда, слаба ведае грамадскасць нашай рэспублікі. Мне давялося двойчы наведаць гэты музей. З яго дакументаў вынікае, што сярод афіцэраў, якія былі расстраляны ў Катыні, даволі шмат людзей беларускага паходжання.

Хацеў бы зазначыць, што нашых польскіх калег вельмі непакоіць тое, што яны ніяк не могуць адшукаць 3800 сваіх грамадзян, якія, на іх думку, прапалі на той час без вестак на тэрыторыі Беларусі.

**Кар:** — Магчыма, у Курапатах...

**Адамушка:** — Я не вельмі ўпэўнены. Тут трэба разабрацца. І ў першую чаргу — крыміналістам.

**Кар:** — Але ж людзі не маглі раставарыцца...

**Адамушка:** — Не маглі!.. Магчыма, яны былі этапам адпраўлены на тэрыторыю Расіі. Магчыма, былі расстраляны там. У архівах камітэта дзяржбяспекі рэспублікі няма аніякай зачэпкі, каб разабрацца ў гэтай справе.

**Кар:** — Што ж датычыцца расстраляных у Катыні афіцэраў Войска польскага — з тых, што беларускага паходжання... Можа, хто-небудзь з нашых навукоўцаў зацікавіўся гэтым фактам?

**Адамушка:** — У агульным рэчышчы вывучэння фактаў палітычных рэпрэсій 20 — 50-х гадоў на Беларусі гэта ўзгадваецца навукоўцамі. Але не болей...

**Кар:** — На жаль, даводзіцца канстатаваць, што вялікая колькасць нашых суайчыннікаў так і застаецца да гэтага часу па-за межамі нашай памяці. Трагедыя Катыні, пагадзіцеся, гэта і трагедыя Беларусі.

**Адамушка:** — Я не сказаў бы, што і Беларусі. Хутчэй трагедыя, якая спасцігла Войска польскае, — яна датычыцца трох народаў: Беларусі, Польшчы і Украіны.



# ЗВАРОТ
## ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ЗВЯЗДА

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, усебакова абмеркаваўшы палітычную сітуацыю, якая склалася ў краіне, і ўсведамляючы адказнасць за цяперашні стан і будучыню Беларусі, звяртаецца да грамадзян, прадстаўнікоў палітычных партый і плыняў, кіраўнікоў усіх структур дзяржаўнай улады і адзначае наступнае.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ніколі ў сваіх рашэннях не дапускаў знявагі і пагроз у адрас Прэзідэнта, увесь час выступаў ініцыятарам канструктыўнага дыялогу паміж уладамі. Мы і зараз з'яўляемся прыхільнікамі такога падыходу.

У той жа час выказванні кіраўніка дзяржавы аб нежаданні выконваць Канстытуцыю і законы, знявага і абразы ў адрас іншых галін улады, і перш за ўсё ў адрас Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, абяцанні ўвесці на Беларусі «прамое прэзідэнцкае праўленне», сведчаць аб тым, што ў краіне пачаўся працэс разбурэння асноў прававой і грамадскай стабільнасці.

Груба парушаючы канстытуцыйныя правы грамадзян, захопліваючы паўнамоцтвы іншых самастойных галін улады, Прэзідэнт паслядоўна знішчае любыя праявы іншадумства і крытыкі ў свой адрас. Аб гэтым сведчыць і адмова прадставіць справаздачу па выкананню бюджэту, прамыя пагрозы і ціск на дэпутатаў Вярхоўнага Савета, стварэнне ўмоў, каб чарговая сесія Вярхоўнага Савета не адбылася, непавага да Канстытуцыйнага суда і яго рашэнняў, прамое ўмяшанне ў дзейнасць гэтага незалежнага органа.

Абуральным і беспрэцэдэнтным для дэмакратычнай прававой дзяржавы, якой мы сябе абвясцілі, з'яўляецца факт забароны прамога тэлеэфіру для выступлення Старшыні Вярхоўнага Савета, сістэматычнае грубае ўмяшанне ў сферу дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі, пазбаўленне грамадзян канстытуцыйнага права на атрыманне поўнай і аб'ектыўнай інфармацыі.

Зыходзячы з інтарэсаў агульнай справы, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь яшчэ раз заклікае Прэзідэнта і выканаўчую ўладу рэспублікі ісці па шляху паразумення і разумнага кампрамісу на падставе прызнання законаў і Канстытуцыі дзяржавы.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь звяртае ўвагу тых, хто з прычыны свайго службовага становішча выконваюць указы і распараджэнні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія выходзяць за межы яго кампетэнцыі і парушаюць Канстытуцыю і законы, што яны становяцца саўдзельнікамі неканстытуцыйных дзеянняў і павінны ўсведамляць сваю палітычную і прававую адказнасць за іх магчымыя вынікі.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь разлічвае на падтрымку з боку шырокай грамадскасці рэспублікі дзеянняў, накіраваных на абарону Канстытуцыі і законаў краіны.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь лічыць, што найбольш эфектыўным шляхам выхаду са складанага палітычнага крызісу з'яўляецца паспяховае завяршэнне выбараў новага саставу Вярхоўнага Савета, і заклікае Прэзідэнта і Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, грамадскасць краіны, дзяржаўных служачых прыкласці ўсе намаганні, каб гэтыя выбары прайшлі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, законамі і прынцыпамі сапраўднай дэмакратыі.

*25 кастрычніка 1995 г.*

## КАТАЛІЦКІЯ СВЯШЧЭННАСЛУЖЫЦЕЛІ ПАКІДАЮЦЬ БЕЛАРУСЬ

**У каталіцкіх прыходах на тэрыторыі Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці склалася няпростая абстаноўка:**

Па рашэнню органаў мясцовай улады выдвараны з Беларусі ксяндзы Гуроўскі і Немец, якія праводзілі службу ў касцёлах без адпаведнага дазволу. Дарэчы, адбылося гэта толькі пасля таго, як ксёндз аднаго з каталіцкіх прыходаў, пан Вісінскі, скампраметаваў сябе перад веруючымі.

**Андрэй МІНСКІ, РІД.**

## Камуністы за пратэкцыю беларускай мове

***Валерый ШЧУКІН, народны дэпутат Вярхоўнага Савета РБ***

Паважаныя дэлегаты! Я ўпаўнаважаны ад ЦК Партыі камуністаў Беларусі перадаць вам вiншаванне з нагоды вашага з'езда і пажадаць плённых поспехаў у вашай вельмі патрэбнай для Беларусі справе. Вы ведаеце, што Партыя камуністаў адстойвае раўнапраўе рускай і беларускай моў, але мы заўсёды выступалі і выступаем за тое, каб беларуская мове была аказана пэўная пратэкцыя. І мне было вельмі прыемна пачуць ад Ніла Сымонавіча Гілевіча, што ў тыя часы, калі партыя камуністаў была кіруючай партыяй, дыктары радыё і тэлебачання ведалі беларускую мову лепш.

Тут здзіўляліся, чаму Міністэрства адукацыі заняло пасля рэферэндуму такую пазіцыю. Рэферэндум не даваў падставу разганяць беларускамоўныя класы. Я звярнуўся да міністра адукацыі афіцыйна па гэтаму пытанню, аднак ён ухіляецца ад сустрэчы са мною. Мы абмяркоўвалі гэта пытанне на фракцыі, і мы, вядома, спагонім з усіх тых, хто прымаў такое рашэнне — разганяць беларускія класы. Гэта вельмі нават няправільна, і Партыя камуністаў выступае супраць гэтага.

## Украіна ў мытным саюзе не зацікаўлена

"Мытны саюз не прынясе Украіне нічога, акрамя мінусаў. У ваенным жа саюзе краін СНД Украіна ўдзельнічаць не будзе", — заявіў прэзідэнт Украіны Леанід Кучма падчас сустрэчы з Хайрулой Джураевым — дзяржаўным саветнікам прэзідэнта Рэспублікі Узбекістан. Кіраўнік Украінскай дзяржавы падкрэсліў, што адносіны ў сістэме Садружнасці павінны быць раўнапраўнымі, улічваць нацыянальныя інтарэсы ўсіх краін СНД.

# ДАСТУКАЦЦА ДА СЭРЦАЎ І РОЗУМАЎ...

ЛіМ

Як вядома, з пачаткам навучальнага года пачаўся татальны наступ улад на кволыя парасткі беларушчыны ў сістэме адукацыі. Прышлае чынавенства, якое займае ў нас усё болей і болей месцаў у органах кіравання, спадзяецца перайначыць на свой капыл самую душу беларуса, скіраваўшы сваё ўздзеянне на аснову нацыі — падрастаючае пакаленне. Іх мэта ясная — захаваць для сябе і спадкаемцаў ціхае месцейка, тэрыторыю, на якой будуць жыраваць яны, а свядомыя беларусы будуць падвяргацца і ўжо падвяргаюцца непрыкрытаму генацыду. На жаль, ёсць у іх памагатыя таксама і сярод быццам бы беларусаў па пашпарце, роля якіх у падрыве духоўнай моцы сваёй уласнай нацыі выглядае пры гэтым найбольш агіднай. Пры гэтым, канечне, прамаўляюцца абсалютна слушныя словы аб неабходнасці "крапіць" дружбу народаў і гэтак далей. Аднак, хай бы ў імя гэтай жа самай дружбы народаў адчыніўся хаця б дзесятак беларускіх школ на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. Ці хаця б выдавалася якоенебудзь перыядычнае выданне на беларускай мове на азначанай тэрыторыі. Мяркую, што ставіць пытанне менавіта такім чынам і ёсць увасабленне сапраўднай, а не ўяўнай дружбы народаў у дзеянні, бо колькасць рускіх па нацыянальнасці жыхароў Беларусі прыблізна роўная колькасці беларусаў, якія жывуць на тэрыторыі Расіі, да таго ж значная колькасць беларусаў знаходзіцца ў Расійскай Федэрацыі на часовай працы (успомнім класічнае: куды не трапяць беларусы!).

Такім чынам, дакляраванае збліжэнне нашых народаў ёсць дарога з рухам толькі ў адным напрамку. Дзяржава-самазабойца ў асобе сваіх верхніх кіраўнікоў занялася размываннем уласнага падмурку.

У такіх умовах, як мне падаецца, узрастае значэнне работы з дзецьмі, з маладым пакаленнем, ці калі браць шырэй — з неафітамі беларушчыны. Напрыклад, як бы было добра, каб у газетах, у тым ліку і ў "ЛіМе", з'явілася старонка, спецыяльна адрасаваная моладзі, а магчыма — і старонка для дзяцей. Добра, каб на гэтых старонках у даступнай форме падаваліся праўдзівыя звесткі аб гісторыі Беларусі, з балючым, аднак такім неабходным аналізам, як і чаму адбылася першая страта дзяржаўнасці нашай краіны, з неабходным зараз аналізам, як яе не страціць у другі і магчыма апошні для цяперашніх пакаленняў раз, каб змяшчаліся творы класікаў беларускай літаратуры, узорныя па выкарыстанні магчымасцей беларускай мовы і па сваёй грамадзянскай пазіцыі, магчыма — кліпы, карыкатуры, іншы графічны матэрыял. Хай бы даваўся невялічкі тлумачальны слоўнічак для слоў, цяжкіх для неафіта. Хай бы былі, з нумара ў нумар, урокі беларускай мовы. Памятаю, як у свой час польскі часопіс "Пшыязьнь" друкаваў, у рускамоўным дадатку, урокі польскай мовы — яны былі пададзены так, што іх немагчыма было не прачытаць, а значыць, у той ці іншай ступені, і зацікавіцца польскай мовай. У нас жа сітуацыя такая, што трэба яшчэ добра падумаць, як зацікавіць беларуса, каб ён заняўся вывучэннем уласнай мовы. І трэба прызнаць, што ў нас гэтая работа вядзецца нездавальняюча.

Ці хаця б узяцца за аналіз мовы беларускага радыё, беларускага тэлебачання, беларускамоўнай прэсы. Часам чытаеш меркаванне таго ці іншага мэтра-беларусаведа: і тое яму не так, і тое не гэтак. Аднак не стае адной маленькай дробязі — шаноўны мэтр не лічыць сваім абавязкам дадаць, а як жа правільна. Магчыма, выявіць сваю памылку шляхам пошукаў па слоўніках і падручніках і з'яўляецца прафесійным абавязкам тэлевізійных каментатараў ці супрацоўнікаў рэдакцый. Аднак матэрыял чытаюць і іншыя людзі, і ім дзеля эканоміі ўласнага часу лягчэй было б прама на месцы даведацца, а як правільна, а магчыма, яшчэ і чаму правільна так, а не іначай. Мы ж, сярэднестатыстычныя чытачы, што тычыцца беларускай мовы, — "акадэміяў не канчалі", набывалі такія-сякія веды па беларускай мове шляхам самаадукацыі, амаль што падпольна. І калі, скажам, тэлевізійны каментатар памыляецца ў вымаўленні ці ва ўжыванні тых ці іншых беларускіх слоў, то, як мне здаецца, яго трэба кваліфікавана і добразычліва паправіць, а не зларадніцаць з гэтай нагоды. Я лічу, што ўжо адна грамадзянская пазіцыя людзей, якія ў цяперашніх варунках маюць смеласць працаваць у эфіры выключна на беларускай мове, павінна выклікаць павагу.

Магчыма, такая, як я б сказаў, чарнавая работа па беларусізацыі і работа з моладдзю не з'яўляецца прыярытэтным напрамкам тых ці іншых газет, гэтаксама "ЛіМа". Аднак жа на Беларусі, бадай, не засталося ніводнай маладзёжнай газеты, якая была б выразнікам інтарэсаў адукаванай, нацыянальна свядомай моладзі: успыхнуўшая было "Чырвонка" стала займаць нейкую цьмяную, вельмі ўжо дыпламатычную пазіцыю, а рускамоўнае "Знамя юности" даўно ўжо стала рупарам сіл, якім ненавісна ўсё беларускае.

Цяпер вельмі важна давесці маладым, што гэтая краіна належыць ім, што нас мала, і таму ад кожнага канкрэтнага чалавека залежыць шмат, прынамсі, у трыццаць разоў болей, чым было некалі пры СССР; што не трэба паддавацца на кручок уладам, заліўшым краіну танным алкаголем, што алкаголь будзе ўсюды і заўсёды, а гэтую краіну можна страціць вельмі скора і надоўга, а без сваёй краіны ты не будзеш патрэбны ў гэтым свеце нікому, ці будзеш патрэбны толькі хіба як гарматнае ("пушечное") мяса, што ў гэтай краіны ёсць свой Сцяг і свой Герб, якія дадзены Богам адзін раз і назаўсёды, і што гэта не залежыць ад таго, падабаюцца яны каму ці не падабаюцца; што ў гэтым свеце ёсць шмат каштоўнага, але што самая вялікая каштоўнасць — Свабода; што ў гэтым свеце чалавеку і чалавецтву адкрылася шмат ісцін, аднак важнейшая сярод іх — што свядомасць вышэй за матэрыю, што свядомасць "первична", а матэрыя "вторична", важнейшая таму, што за затрымку ў авалодванні менавіта гэтай ісцінай чалавецтва заплаціла болей за ўсё — дзвюма найвялікшымі катастрофамі ў сваёй гісторыі, якія адбыліся за семнаццаць гадоў ад пачатку XX стагоддзя і за чатырнаццаць гадоў да яго канца — катастрофамі, якія, на жаль, у максімальнай ступені зачапілі нашу краіну...

Усё гэта старыя і даўно вядомыя ісціны, але іх трэба паўтараць і паўтараць зноў і зноў, каб дастукацца да сэрцаў і розумаў усё новых і новых людзей.

**А.УРБАНОВІЧ**

*г.Гомель*

---

Прыходзіць жанчына да лекара з дачкою:

— Стань, Аня, проста, каб Спадар доктар пабачыў, якая ты крывая.

# ШТО ПАГРАЖАЕ БЕЛАРУСАМ?

"Голас Радзімы"

Дзякуючы вашай газеце я ў значнай ступені, як гавораць, у курсе спраў, што адбываюцца на Радзіме. І штогодні водпуск таксама дае магчымасць больш бачыць жыццё простых людзей, і ў першую чаргу сялян, без падмалявання.

Зыходзячы з гэтага, я маю поўную падставу выказаць свае меркаванні наконт будучыні Беларусі. Дарэчы, пасля майскага рэферэндуму маю Радзіму лепш называць "Северо-Западный край". Гэта будзе больш дакладна адпавядаць, як гавораць гісторыкі, рэаліям часу. Як мне ні сумна, але павінен канстатаваць, што этнічная самасвядомасць маіх землякоў у многа разоў слабейшая за самасвядомасць тых народаў, якіх амаль ніхто не ведае, к прыкладу — юкагіраў. І гэта звязана з тым, што беларусы не маглі вырашчыць для сябе, і так і не вырашылі да гэтага часу, хто яны -- ці рускі "субэтнас", ці палякі...

Гэта куды б ні ішло. Але ёсць усе падставы гаварыць, што беларусы як народ зыходзяць з гістарычнай арэны ў фізічным плане. Карацей, беларусаў больш памірае, чым нараджаецца. І гэта бачна па маёй вёсцы. Саўгас, які там існуе, закончыць сваё жыццё ў першых гадах наступнага стагоддзя. Гадоў яшчэ дванаццаць назад там было столькі народу, што цяжка было тады ўявіць сучасную карціну...

Чытаю выступленні Аляксандра Лукашэнкі і іншых палітычных дзеячаў і не бачу, што яны клапоцяцца аб "сохранении своего народа". Ідзе толькі барацьба за захаванне свайго становішча. Вядома, калі ўлада змагаецца толькі за ўладу, то добрага не атрымаецца. Народ быццам бы і прысутнічае ў іх прамовах, інтэрв'ю, але не больш, а як вядома, народ складаецца з асоб, якія, у сваю чаргу, таксама падзяляюцца па сацыяльнаму становішчу, і па матэрыяльнаму, і г.д. Мы можам па-рознаму ставіцца да камуністычнага праўлення, але ў праграмных устаноўках партыі ўказвалася "дойти до каждого человека". Праўда, гэта паўсюдна не выконвалася, але ж было такое памкненне...

Як вядома, нацыя можа існаваць толькі пры адной умове: у кожнай сям'і павінна быць не менш двух-трох дзяцей. Ці знойдзем мы зараз гэта ў Беларусі? Звычайна ў сям'і зараз адно дзіця, якое, як правіла, вырастае эгаістам. А працягласць жыцця? У Расіі ўжо дыскутуюць, каб даваць пенсію з 55-ці гадоў мужчынам, а жанчынам з 50-ці. Думаю, у недалёкай будучыні гэта будзе абмяркоўвацца і ў беларускім парламенце.

Пагражае беларусам і хвароба, якая мае назву дэбілізм. Прычынай яе, як усім вядома, з'яўляецца п'янства. Можна бясконца гаварыць, чаму так сталі піць людзі, але факт застаецца фактам: п'юць, што называецца, ад малога да старога. Дастаткова зайсці ў звычайны сельскі клуб, і адкрыецца карціна, што міжволі думаеш, куды ты трапіў, бо сапраўдныя дзікуны ў параўнанні з імі гэта цывілізаваныя людзі. Усеагульная п'янка вядзе да таго, што чалавек не толькі не здольны на высокапрадукцыйную працу, але і простая работа, якая патрабуе напружання "мазгоў", яму не пад сілу... А як вядома, самая сучасная тэхніка ў руках такога "дзікуна"-- гэта кавалак жалеза. У расійскіх газетах паведамлялася, што больш 50-ці працэнтаў салдат Расійскай арміі не ў стане асвоіць сучасную тэхніку. Думаю, што такое становішча і ў Беларусі. Я не ведаю, колькі ў Беларусі дэбільных асоб, але вядома адно: калі тая ці іншая нацыя мае іх 15--17 працэнтаў, яна пачынае дэградзіраваць.

Здзіўляе мяне заява некаторых палітычных лідэраў аб тым, што вось пабудуем здаровую эканоміку, а потым пачнём выхоўваць чалавека. Але, як вядома, першым прынцыпам эканомікі з'яўляецца "духовно-нравственный". Ён грунтуецца ў значнай ступені на духоўных каштоўнасцях.

Такі прынцып вельмі добра дзейнічае ў Японіі, ды і калісь у Савецкім Саюзе быў і нават пры ўсіх хібах даваў добрыя вынікі ў развіцці эканомікі.

Не менш важным у жыцці любога грамадства, тым больш нашага, з'яўляецца "наличие" ідэала. Ні адзін палітык, якім бы ён ні быў разумным і аўтарытэтным, не зрушыць з месца нічога, калі не закране большасць сваімі праектамі, што дадуць магчымасць выйсці з крызіснага становішча.

Глыбока ўпэўнены ў тым, што аб'яднанне Беларусі з Расіяй, названае канфедэрацыяй, трэба правільна называць уваходжаннем Беларусі ў склад Расіі. Але і гэта не вырашыць праблему аздараўлення нацыі. Патрабуецца ў першую чаргу паўсядзённая, чорная работа, да якой мы не прывыклі. Нам давай трыбуну, і мы будзем граміць ворагаў, якія перашкаджаюць ажыццяўленню грандыёзных планаў.

Я не Павел Глоба. Але глыбока ўпэўнены, што пры такой сітуацыі з цягам часу замест беларусаў будуць жыць на нашай зямлі азіяцкія народы, і ў першую чаргу кітайцы. У свой час вядомы кітайскі філосаф Канфуцый гаварыў, што яны мірным шляхам заваююць свет. Не за гарамі той час, калі Кітай апярэдзіць Злучаныя Штаты і яго эканоміка стане самай моцнай у свеце. Для гэтага спатрэбяцца новыя тэрыторыі. І ўжо зараз расійскі Далёкі Усход, дзе жыве адносна невялікая колькасць насельніцтва, павольна засяляецца кітайцамі, і ўлады нічога не могуць зрабіць, бо Расія вельмі слабая дзяржава. Уся магутнасць яе ў ядзерным патэнцыяле, не больш. Так, крок за крокам, будзе ісці засяленне кітайцамі... тэрыторый слабых народаў.

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**
Расія.

## ДАЎГІ ШЛЯХ ВЯРТАНЬНЯ

У серыі "Бібліятэка беларускай дыяспары" выйшла з друку кніга Алеся Вініцкага (1891—1972) "Матэрыялы да гісторыі Беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадах". Аўтар кнігі — вядомы дзеяч беларускага замежжа. Ён адзін з тых тысяч беларусаў, якіх вайна пазбавіла радзімы. У часе нямецкай акупацыі сп. Вініцкі займаўся школьніцтвам. У канцы вайны трапіў у Германію, працаваў на фабрыцы і ў сельскай гаспадарцы. З прыходам амерыканцаў застаўся ў іхняй акупацыйнай зоне. А. Вініцкі браў удзел у стварэнні і працы Беларускага камітэта ў горадзе Рэгенсбургу, а потым і Беларускага Цэнтральнага Камітэта, быў сябрам Рады БНР. З 1956 года жыў у Злучаных Штатах Амерыкі, кнігу скончыў за некалькі месяцаў да смерці.

У 1991 г. кніга трапіла ў Беларусь, вяліся перамовы з выдавецтвам "Беларускай энцыклапедыі". Узяўся за выданне Міхась Ткачоў, які загадваў на той час рэдакцыяй гісторыі. Але заўчасная смерць нашага слаўнага гісторыка і патрыёта перапыніла справу. Сёння кніга нарэшце пабачыла свет у выдавецкай суполцы "Тэхналогія", але, на жаль, малым накладам — усяго 1200 асобнікаў.

Кніга складаецца з дзвюх частак. Першая ахоплівае час Другой сусветнай вайны (1939—1945 гг.), другая — час пасля капітуляцыі Нямеччыны (7.5.1945—31.12.1951 гг.). Мабыць, найбольш цікавымі для нашага чытача будуць звесткі пра дзейнасць беларускіх арганізацый на акупаванай немцамі тэрыторыі БССР. Да нядаўняга часу, у адпаведнасці з догмамі камуністычнай ідэалогіі, кожны, хто ў часе вайны не стаў пад чырвоны сцяг, лічыўся здраднікам і ворагам. Нават проста вымушанае знаходжанне на акупаванай тэрыторыі (немагчыма ж цэламу народу эвакуіравацца) трактавалася, як злачынства, як пляма ў біяграфіі. Што ж тады казаць пра тых, хто ў часе акупацыі спрабаваў ладзіць школьніцтва, вытворчасць альбо вясковую гаспадарку, займаўся культурніцкай дзейнасцю...

Кніга А. Вініцкага падводзіць да думкі, што "калабарацыянізм", і "калабарант" у адносінах да жыхароў Беларусі — гэта не так проста і адназначна, як здаецца некаторым. Будзем памятаць, што апошнія дзвесце гадоў у Беларусі панавалі чужынцы — расійцы, палякі, немцы, а мясцовы люд, не маючы магчымасці для актыўнага супрацоўлення, быў вымушаны лрыстасоўвацца да акупантаў. Так што за дзвесце гадоў набярэцца шмат "калабарантаў".

У другой палове 40-х — пачатку 50-х гадоў Заходняя Нямеччына была месцам, адкуль беларусы раз'язджаліся па свеце. У ДП-лагерах (DP — англельская абрэвіятура: "пераселеныя (перамешчаныя) асобы") былі пачатковыя школы, школы для дарослых, гімназіі. Існавалі дзіцячыя садкі і арганізацыі скаўтаў, культурніцкія ўстановы. У ДП-лагерах беларусы, што засталіся на Захадзе, не пажадалі вярнуцца ў сталінскую імперыю, мелі нацыянальнае выхаванне і адукацыю, якіх былі пазбаўлены беларусы ў БССР. Мо адсюль і высокі патрыятызм гэтай плыні эміграцыі.

Жыццё не чужыне салодкім не было. Былі штодзённыя клопаты пра кавалак хлеба, быў і роздум "а што далей?" Аднак, да гонару нашых суайчыннікаў за мяжою, трэба сказаць, што яны здолелі ў той час, калі Беларусь была закрыта ад Еўропы "жалезнай заслонай", стаць паўнавартаснымі еўрапейцамі, людзьмі заходняй цывілізацыі, застаўшыся пры гэтым беларусамі, адданымі сваеи Айчыне. І сённяшняя эміграцыя — гэта той мост, які звязвае Беларусь са Светам.

"ЛіМ" **П.ВАСІЛЕЎСКІ**

Астралагічная сенсацыя

# Колькі нам жыць?

Ваш знак задыяка не толькі вызначае характар, здольнасці, жыццёвыя шанцы і будучае. Ён сведчыць таксама і аб магчымай працягласці вашага жыцця.

Гэта адкрыццё зрабіў амерыканскі сацыёлаг, які па-аматарску займаўся астралогіяй, прафесар Форэст Фіклінг.

— Мяне шакіравалі вынікі, — гаворыць вучоны з Каліфорніі. -- Але з фактамі не паспрачаешся. Выявілася, што людзі пад адпаведнымі знакамі жывуць намнога больш, чым іншыя.

Прафесар Фіклінг сцвярджае, напрыклад, што мужчыны Цяльца і жанчыны знака Блізняты — рэкардсмены даўгажыхарства, яны жывуць 81 год 6 месяцаў. Далей за імі — жанчыны знака Казярога, яны могуць разлічваць на 80 гадоў, а жанчыны, народжаныя пад знакам Цяльца, — 79 гадоў 6 месяцаў.

— Меней за ўсіх працягласць жыцця ў народжаных пад знакам Стральца, -- працягвае прафесар Фіклінг. -- Магчыма, таму, што гэты знак адпавядае жыццю інтэнсіўнаму і бурнаму.

Сам прафесар Фіклінг (Авен) і яго жонка Глорыя (Дзева) праводзілі свае даследаванні ў групе з некалькі дзесяткаў спецыялістаў.

— Мы параўноўвалі даты нараджэння і смерці болей чым 60 тысяч чалавек, а нашы калегі распісалі гэтыя даныя па знаках задыяка, — тлумачыць прафесар. -- Інфармацыю мы бралі з энцыклапедый, бібліятэчных фармуляраў, царкоўных кніг і нават... на магілках. Вельмі самі здзівіліся, калі камп"ютэр, запраграмаваны на першыя 5 тысяч чалавек, паказаў суадносиасць жыцця і адпаведных знакаў.

**Табліца прафесара Фіклінга**

| Знакі Задыяка | | Працягласць жыцця | |
|---|---|---|---|
| | | Мужчын | Жанчын |
| Казярог | (22.12—20.01) | 77,5 | 80 |
| Вадалей | (21.01—19.02) | 71,5 | 71,5 |
| Рыба | (20.02—20.03) | 71 | 75 |
| Авен | (21.03—20.04) | 79 | 78 |
| Цялец | (21.04—21.05) | 81,5 | 79,5 |
| Блізняты | (22.05—21.06) | 78 | 81,5 |
| Рак | (22.06—22.07) | 68 | 73 |
| Леў | (23.07—23.08) | 74 | 74,5 |
| Дзева | (24.08—23.09) | 76,5 | 80,5 |
| Шалі | (24.09—23.10) | 73 | 77 |
| Скарпіён | (24.10—22.11) | 68,5 | 72,5 |
| Стралец | (23.11—21.12) | 62 | 63,5 |

**Падрыхтаваў Алесь БЯРЖЫНСКІ.**

## АХВЯРАВАНЬНІ

на кніжыцу
"Фальклёр Стаўпеччыны"

| | |
|---|---|
| 7. Кастусь Вайцяхоўскі | $60.00 |
| 8. Адам Цыпляхоў | $10.00 |
| Разам: | $70.00 |
| Папярэднія ахвяры: | $188.00 |
| Разам: | $258.00 |

Хто наступны?

## Вялікае Прызнаньне

З вялікаю прыемнасьцю даводзім да ведама, што гэты нумер газэты выдаецца на 12 бачынаў дзякуючы ахвярнасьці Спадарства: Др. Мацея Смаршчка, Анатоля Лук'янчыка і Уладзімера Ракуця. Дзякуй Вам добрыя людзі!

## ЯШЧЭ АДЗІН КАНТЭЙНЕР НА БЕЛАРУСЬ...

Яшчэ перад Калядамі адплыве кантэйнер у Менск з лекамі ды іншымі рэчамі. Спонсарамі гэтага кантэйнера зьяўляюцца амэрыканскія дзеці з некалькіх школаў у Мічыган і Огайо, якія па цэнту сабралі каля $5,000.oo (пяць тысяч даль.) Падрыхтоўка да адсылкі кантэйнера (20') вядзецца Спадаром Джэры Кортны з УМСА - Толідо пры кансультацыі М. Пруськага. Кантэйнер адрасаваны ў Беларускі Дзіцячы Фонд, які старшынствуе ведамы беларускі пісьменьнік Уладз. Ліпскі. М.

# ГАРАНТЫЯ НАДЗЕЙНАСЦІ — ФІКО



**ФІНАНСАВАЯ ІНВЕСТЫЦЫЙНАЯ КАМПАНІЯ ФІКО ПРАЦУЕ Ў ГАЛІНЕ ФІНАНСАВЫХ ПАСЛУГ ЧАЦВЁРТЫ ГОД. НА БЕЛАРУСІ СЯРОД АНАЛАГІЧНЫХ КАМПАНІЙ ФІКО КАНТРАЛЮЕ СЕГМЕНТ РЫНКУ, РОЎНЫ 15--20 ПРАЦЭНТАМ СЯРОД БАНКАЎ І ФІНАНСАВЫХ КАМПАНІЙ 1,5--3 ПРАЦЭНТАМ. РАСКАЗВАЕ ГЕНЕРАЛЬНЫ ДЫРЭКТАР ФІКО НАТАЛЛЯ ШАЎКО.**

Мы даўно марылі аб тым, каб працаваць на рынку каштоўных папер, займацца буйнымі фондавымі аперацыямі. Асноўная стратэгія была такая -- не чакаць, пакуль дзяржава пачне ствараць рынак, а пачаць рабіць гэта самім. У выніку ў 1991 годзе і з'явілася наша ФІКО -- прыватная фірма, заснавальнікі якой -- чатыры фізічныя асобы. Пачалі з прыватызацыі, дасягнулі пэўных поспехаў...

На сённяшні дзень ФІКО -- шматгаліновы кансорцыум арганізацый і прадпрыемстваў, якія ажыццяўляюць фондавыя і банкаўскія аперацыі на валютным рынку, аперацыі з нерухомасцю. Мы аказваем міжнародныя фінансавыя, патэнтныя, кансалтынгавыя, аналітычныя, адукацыйныя, камп'ютэрныя паслугі. Працуе ў нас больш за 200 кваліфікаваных работнікаў, для кансультацый запрашаем беларускіх і замежных экспертаў вышэйшай катэгорыі. Мы арыентаваліся на моладзь, сярэдні ўзрост працуючых -- 24 гады. Усе нашы спецыялісты маюць вузкую спецыялізацыю, выдатна валодаюць пытаннямі аўдыта, рэкламы, прыватызацыі, камерцыйнай дзейнасці па Беларусі і за яе межамі. Дарэчы, увесь комплекс паслуг аказваецца на аснове ліцэнзій, выдадзеных адпаведнымі дзяржаўнымі органамі. А нядаўна ўпершыню на Беларусі створана інфраструктура, дзякуючы якой кліент мае магчымасць карыстацца ўсім спектрам паслуг праз аднаго фінансавага кансультанта, знаёмага з яго праблемамі і зацікаўленага вынікам працы, гэта значыць, арганізаваць сістэму фінансавага планавання. Калі ж гаварыць аб укладанні грошай, мы прымаем сродкі ад юрыдычных асобаў, рэінвестуем іх, абараняючы ад інфляцыі, і ў дакладна ўстаноўлены тэрмін, пасля выгадных укладаў, забяспечваем іх мэтавае выкарыстанне. Гэта ўсё сёння. Калі ж гаварыць аб перспектыве -- пра яе я магу сказаць толькі тады, калі я зразумею, які дзяржаўны лад мы будуем. Калі гэта будзе капіталізм -- мы б скіраваліся на каштоўныя паперы на прыватным рынку, на фінансавыя аперацыі. Пры таталітарным рэжыме арыентаваліся б на працу ў банках і падрыхтоўку да яе. Калі ж мы будуем рынкачны сацыялізм -- у мяне адно жаданне: зразумець, што гэта такое і, калі я гэта зразумею, вось тады і скажу пра адпаведны кірунак нашай дзейнасці.

Ведаючы, што гэты матэрыял будуць чытаць у асноўным беларусы замежжа, Наталля Шаўко дадае: "Беларусы ў свеце. Нас цікавяць сувязі з імі. І не толькі эканамічныя. Трэба зразумець і высветліць, чым яны могуць нам дапамагчы ў цяперашняй цяжкай сітуацыі. Канешне, буйных інвестыцый я не чакаю. Напачатку, на мой погляд, галоўнае -- гэта іх дапамога ў адраджэнні духу нашай нацыі. Так, адраджэнне духу кожнага чалавека, яго най схільнасці да асабістай працы, да асабістага выжывання, да стаўлення да сябе як да адзінай істоты, якая можа выратаваць і сябе, і сваіх дзяцей, а ў выніку -- сваю Беларусь.

Беларусы Амерыкі, Аўстраліі, Англіі жывуць у тых краінах, дзе кожны чалавек павінен выжываць паасобку. І яны разумеюць, што ані дзяржава, ані прэзідэнт, ані парламент, ані ўрад, ані замежныя інвестыцыі -- ніхто ім не дапаможа, а кожны павінен дапамагчы сабе сам. Дапамагчы адчуць сябе нацыяй, адчуць і працаваць на яе карысць, а праца на карысць Радзімы ў нашых умовах -- гэта найперш праца, у якой трэба разлічваць, у першую чаргу, на сябе.

І канешне, мы з задавальненнем прынялі б канкрэтныя прапановы па супрацоўніцтву. Я веру, што прыйдзе такі час, калі нашы землякі змогуць вярнуцца на Беларусь і займацца бізнесам.

Калі ж гаварыць аб дабрачыннасці, то вядома, што ў нашых эканамічных умовах зарабляць грошы вельмі няпроста. Але фактычна ў многіх імпрэзах, у многіх мерапрыемствах, якія накіраваны на адраджэнне духоўнасці, гістарычнай памяці і самасвядомасці беларускай нацыі, ёсць і наш фінансавы ўклад.

І гэта так. Бо толькі ў вольнай незалежнай дзяржаве, сярод разняволеных духам людзей, якія асэнсавалі сваё месца на гэтай зямлі і адказнасць за яе, магчыма пабудаваць нармальнае жыццё, нармальныя ўмовы для любой чалавечай дзейнасці".

Мы згодныя са спадарыняй Наталляй. Нам усім неабходна хутчэйшае адраджэнне нашай Бацькаўшчыны. І вялікую ролю ў гэтым нялёгкім працэсе суджана адыграць такім людзям, як спадарыня Шаўко, бо менавіта з такімі дзелавымі высокаінтэлектуальнымі, адукаванымі і культурнымі людзьмі звязана будучыня нашай нацыі.

"Голас Радзімы"

Падрыхтавала
Ніна ПЕТУХОВА.

# Замежныя інвестыцыі: чаму яны не ідуць на Беларусь?

***Адна з важнейшых умоў развіцця рыначных форм гаспадарання ў любой дзяржаве — адкрытасць нацыянальнай эканомікі перад замежнымі інвестарамі. Як у гэтым сэнсе выглядаюць справы на Беларусі? Што стрымлівае прыток капіталу? На гэтыя і іншыя пытанні шукалі адказ супрацоўнікі Навукова-даследчага эканамічнага інстытута, якія правялі сацыялагічнае апытанне сярод кіраўнікоў замежных і сумесных прадпрыемстваў, прадстаўнікоў міжнародных кампаній, банкаў і інш.***

***Аглядальнік "Народнай газеты" Віктар ЧАРНУШЭНКА гутарыць з удзельнікам сацыялагічнага даследавання супрацоўнікам інстытута Яўгенам АДАМОВІЧАМ.***

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

— Асноўнай мэтай даследавання, калі гаварыць коратка, было вывучэнне "інвестыцыйнага клімату", прычын, якія на яго ўплываюць, — распачаў Яўген Мікалаевіч. — Нашы вывады прымушаюць вельмі сур'ёзна задумацца над праблемай інвестыцый.

**— На якіх галоўных аспектах была сфакусіравана ўвага падчас работы сацыёлагаў?**

— Найпершы — гэта вызначэнне ступені эфектыўнага дзеяння заканадаўства па прыцягненню замежных інвестыцый. Далей: вывучэнне сфер эканомікі, дзе можна з большай выгадай укладваць капітал; прыярытэтных форм гаспадарання; уплыву дзяржаўнага рэгулявання, цэнавых, сацыяльна-палітычных фактараў на прыток інвестараў...

**— Вопыт больш развітых краін сведчыць: здзейсніць структурную перабудову ў розных галінах эканомікі ўласнымі сіламі практычна немагчыма. Пры пэўных умовах замежны капітал можа прынесці краіне дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу, перадавы вопыт кіравання і г.д. Што станоўчае мы ўжо атрымалі ад капіталу інвестараў?**

— У агульных рысах: паступленне замежных перадавых тэхналогій, вынікаў навукова-даследчых вопытных канструктарскіх распрацовак; павышэнне асартыменту і якасці выпускаемых тавараў...

**— ... А адмоўнае?**

— Выцясненне мясцовых вытворцаў і пастаўшчыкоў тавараў з рынкаў, драпежную эксплуатацыю рэсурсаў, рэпатрыяцыю даходаў за мяжу, што прывяло да пагаршэння плацежнага балансу краіны.

Які вывад з усяго гэтага? Неабходна аздаравіць "інвестыцыйны клімат", як бы мовіць, паставіць яго на службу інтарэсам дзяржавы. Аб'ёмы капукладанняў на сённяшні дзень вельмі малыя. Паводле даных Мінзнешэканомсувязі, памер замежных інвестыцый у Беларусь з 1991 па 1995 год склаў усяго 400 млн. долараў. У той жа час, скажам, толькі адна вядомая фірма "Пепсіко" за апошнія два гады інвесціравала ў польскую эканоміку паўмільярда долараў... У расійскую эканоміку фактычныя капукладанні складаюць штогод каля 6 млрд. долараў...

У нашай жа краіне штогадовы прырост замежных інвестыцый у эканоміку ў сярэднім толькі 65 млн. долараў. Колькасць замежных і сумесных прадпрыемстваў скарацілася амаль удвая...

**— Чаго больш за ўсё баяцца інвестары?**

— Наша дзяржава не гарантуе высокай ступені абароны правоў замежных інвестараў. 45 працэнтаў рэспандэнтаў адзначылі, што прававая сістэма на Беларусі поўнасцю не спрыяе інвестыцыям. 37 працэнтаў апрошаных часткова незадаволены нарматыўнымі актамі... Адштурхоўвае складанае крымінагеннае становішча.

Адзначаючы некаторыя плюсавыя моманты закона "Аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь", трэба прызнаць, што прынятыя ў перыяд з 1994 па жнівень 1995 года нарматыўныя падзаконныя акты звялі да мінімуму льготы для замежных і сумесных прадпрыемстваў. Прыярытэт аддадзены Расіі, тым дзяржавам, што ўваходзяць у мытны саюз. Знік інтарэс працаваць...

**— Якія прапановы па аздараўленню інвестыцыйнай палітыкі выцякаюць з усяго гэтага?**

— Мэтазгодна павялічваць падатковыя "канікулы" для інвестараў з трох да пяці гадоў, зніжаць стаўкі мытных пошлін на тавары, а таксама падатковыя стаўкі...

Найбольш складанае пытанне — набыццё інвестарамі ва ўласнасць участкаў зямлі. Хаця б для рэалізацыі самых значных для Беларусі праектаў. Права ўласнасці на зямлю — самы надзейны гарант інвестыцый. Гэта прызнана ва ўсім свеце.

**— Якія галіны народнай гаспадаркі сёння найбольш прыцягваюць замежны капітал? Якія яго найбольш жыццяздольныя формы?**

— Рэспандэнты далі такі адказ: харчовая прамысловасць (14,9 працэнта), электроніка (10,9), гандаль і сельская гаспадарка(8,9), будаўніцтва (6,9)...

Стварэнне СП, замежных прадпрыемстваў мае прыярытэт перад іншымі формамі інвестыцый (крэдыты, набыццё акцый і г. д.). Зараз на Беларусі зарэгістравана каля 1800 СП і 700 замежных прадпрыемстваў. Іх сумарны статутны фонд складае 812,6 млн. долараў.

...Прыток замежных інвестыцый вельмі важны ў першую чаргу для стабілізацыі макраэканамічнай сітуацыі ў нашай дзяржаве: напаўнення таварных рынкаў, ліквідацыі незагружанасці вытворчых магутнасцей, стварэння новых рабочых месцаў і інш. Існуе заканамернасць: чым вышэй эканамічнае развіццё краіны, тым больш свабодны ў ёй рэжым для замежных інвестыцый. У інтарэсах Беларусі, яго народа стварыць найбольш спрыяльны "інвестыцыйны клімат", каб не апынуцца ў апошняй, трэцяй калоне.



# Інцыдэнт на Беласточчыне

*У мінулыя выхадныя, 28—29 кастрычніка, у Бельску-Падляшскім, што на Беласточчыне, праходзіў традыцыйны фэстываль "Бардаўская восень", які ладзіў Зьвяз беларускай моладзі ў Польшчы*

У фэстывалі ўдзельнічалі мясцовыя барды, а таксама госьці з Беларусі. Але ў першы ж дзень сьвяточны настрой быў азмрочаны прыкрым інцыдэнтам. Да Палацу культуры, дзе праходзіў канцэрт, на трох аўтамабілях пад'ехала група "брытагаловых" польскіх шавіністаў. З крыкам "Беларусы, прэч у Беларусь" яны ўварваліся ў будынак і зьбілі 6 удзельнікаў фэстывалю.

Налётчыкам лёгка ўдалося ўцячы, бо ў паліцэйскіх, якія прыехалі на выклік, раптам сапсавалася машына.

В.Л.

# Дапамогу з Нямеччыны давялося адправіць назад

**Віцебскі абласны камітэт Чырвонага Крыжа атрымаў з Нямеччыны 15 тонаў дабрачыннай дапамогі, у тым ліку і санітарны аўтобус Volkswagen.**

Аднак яго давялося адправіць назад у Нямеччыну, бо па беларускіх законах аўтобус ня можа быць гуманітарнай дапамогай, таму абласны камітэт Чырвонага Крыжа павінен быў заплаціць дзьве з паловай тысячы даляраў ЗША.

СІМ

# СПРАВАЗДАЧА "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

Безумоўна, па ранейшым часе (два-тры гады назад) падобнага кшталту мерапрыемства сабрала б процьму суайчыннікаў з розных куткоў свету. Так і было. Варта ўспомніць першы з'езд беларусаў свету, тую ўзнёсласць, што суправаджала вялікую падзею. Што сёння? На сустрэчу беларусаў замежжа не сабралася і паўзалы Дома літаратара. Такая ўжо сённяшняя рэчаіснасць. І вінавата ў гэтым, канешне ж, не Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". А вінаватыя агульны стан грамадства, характар дзяржаўнай палітыкі ў стаўленні да беларусаў дыяспары.

І тым не менш на сёлетняй сустрэчы "Бацькаўшчына" здолела ахарактарызаваць стан беларускай эміграцыі, расказаць пра клопаты суайчыннікаў з далёкага і блізкага замежжа. Найперш гэта гучала з вуснаў старшыні Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Ганны Сурмач. Яна выступіла на сходзе з шырокім і шматгранным дакладам. Падрабязнасці пра мерапрыемства — у наступным нумары газеты "Культура".

Кастусь СЕМЯНОВІЧ

# ПОЛЬШЧА. БЕЛАРУСКІЯ МАТЫВЫ

**Калі палякі сустракаюць каго-небудзь з Беларусі, адно з першых пытанняў, якія яны надзвычай часта задаюць, гучыць прыкладна так: «Ну, як там у вас Лукашэнка кіруе, ці хутка ўжо Беларусь злучыцца з Расіяй?» Пытаюць яшчэ пра рэферэндум, пра выбары, якія не адбыліся... Усе гэтыя падзеі ў Беларусі павысілі цікавасць да нашай краіны з боку палякаў — пытанне толькі ў тым, ці можна гэта лічыць станоўчай падставай для такой цікавасці?**

**Хаця відавочна, што Беларусь усё яшчэ знаходзіцца на перыферыі грамадскай думкі ў Польшчы, тым не менш сярэднестатыстычны паляк мае магчымасць атрымліваць інфармацыю з Беларусі, напрыклад, праз «Газету выборчу», якая рэгулярна друкуе матэрыялы свайго мінскага карэспандэнта Цэзарыя Галіньскага. Дзякуючы добра развітым СМІ і палякі, і беларускія турысты ў Польшчы могуць сачыць за развіцём сітуацыі ў Беларусі.**

❶ Тым не менш, веды ў польскім грамадстве пра Беларусь знаходзяцца на такім узроўні, што колішні пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі прафесар Эльжбета Смулэк, праводзячы цыкл лекцый аб Беларусі ў Варшаўскім універсітэце, назвала іх прыблізна так: «Беларусь, малавядомы сусед Польшчы». Пані Смулэк сёння, відаць, з'яўляецца адным з найлепшых знаўцаў Беларусі ў Польшчы. І расказвае яна варшаўскім студэнтам аб нашай мове, гісторыі, сучаснай палітыцы, аб нашых праблемах вельмі прыязна, з добрымі пачуццямі, але аб'ектыўна. Мне пашчасціла пабываць на адной з лекцый прафесара Эльжбеты Смулэк, на якой яна дзялілася яшчэ свежымі ўражаннямі аб Беларусі і тымі ведамі аб ёй, якія яна здабыла за гады працы на пасольскай пасадзе. Цяперашнія яе лекцыі — толькі імпрэсіі на тэму Беларусі, Э. Смулэк мяркуе за паўгода ўпарадкаваць свае матэрыялы і падрыхтаваць сапраўдны курс аб Беларусі як краіне вельмі мала вядомай у Польшчы і, на жаль, лёгка акрэсленай тут стэрэатыпамі.

— Аднак Беларусь не з'яўляецца краінай, да якой можна прымяніць этыкеткі — усё тут куды глыбей, складаней, — зазначыла Э. Смулэк на той лекцыі. На пытанне: «Ці з'яўляецца Беларусь незалежнай краінай?» Э. Смулэк адказала: «Так, але...». «Так», бо Беларусь з'яўляецца прадметам міжнароднага права, мае свой урад і парламент... «Але», бо розныя дзеянні беларускіх уладаў даваляюць спекуляваць на тэму самастойнасці Беларусі па многіх прычынах: ліквідацыя мытняў і межаў на ўсходняй граніцы, мытны саюз і інш. «На маю думку, гэта не з'яўляецца адмовай ад дзяржаўнасці, — зазначае Э. Смулэк, — магчымасці для развіцця дзяржаўнасці яшчэ ёсць. Свядомая частка беларускага грамадства ўжо прывязалася да гэтай ідэі дзяржаўнасці, яна ўжо стала вартасцю для многіх людзей...» Расказаўшы аб навейшай гісторыі Беларусі, спыніўшыся на галоўных яе дзеячах і праблемах, прафесар Э. Смулэк зрабіла вывад: «Беларусь — сусед, варты нашай увагі».

❷ Звяртаюць увагу на Беларусь не толькі польскія дыпламаты і вучоныя, але і палітыкі. Падчас сустрэчы ў Варшаве прадстаўнікі польскіх партый распытвалі аб палітычнай палітры ў Беларусі, запісвалі назвы партый, імёны іх лідэраў. Адзін з паслоў сейма РП ад Уніі свабоды, Кшыштаф Вальфрам, згадзіўся выказаць свае адносіны да сітуацыі ў Беларусі.

— Відавочна, што падзеі ў Беларусі з'яўляюцца ўнутранай справай гэтай дзяржавы, аднак, ацэньваючы іх з пункту гледжання Польшчы, яе інтарэсаў, мы занепакоены магчымасцю прыходу расійскіх войскаў да нашай мяжы праз расійска-беларускія дамоўленасці аб супольнай ахове граніц. Занепакоены мы і тым, што адбываецца ў сувязі з беларускім парламентам. Гэта паказвае, што Беларусь сыходзіць са шляху ад таталітарнага рэжыму да дэмакратыі. Ацэнка таго, што адбываецца ў Беларусі, грамадскай думкай Польшчы, сфарміраванай на падставе паведамленняў сродкаў масавай інфармацыі, з'яўляецца адназначна негатыўнай. Польскі сейм пасля збіцця беларускіх парламентарыяў у красавіку з гэтай нагоды аднагалосна прыняў адпаведную заяву, у якой ацаніў гэта як недазволеную грубасць у адносінах да дэпутатаў...

❸ Занепакоенасць польскіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў выказвалася і адносна факта невыбрання ў Беларусі новага паўнацэннага парламента, і пройгрышу нацыянальна-дэмакратычных сіл на выбарах. У сувязі з гэтым польскі фонд Стэфана Баторыя правёў спецыяльную акцыю падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі — запрасіў на тыднёвыя курсы па навучанню выбарчым тэхналогіям паўтара дзесятка прадстаўнікоў розных палітычных партый Беларусі — тых, хто арганізоўвае выбарчую кампанію альбо ўдзельнічае ў ёй у якасці кандыдата. Навучанне ў асноўным зводзілася да т. зв. «перадачы вопыту», якім дзяліліся арганізатары выбарчых кампаній розных палітычных партый. Аднак хутка высветлілася, што польскі вопыт для беларусаў не вельмі прыдатны — у сэнсе выкарыстання тэлебачання як найважнейшага агітацыйнага канала, іншых СМІ. Такім чынам, галоўная ўвага нашых палітыкаў была сканцэнтравана на так званых сродках «low-tech», нізкіх сродках выбарчай кампаніі: хаджэнне ад дзвярэй да дзвярэй, агітацыя на выбарчых сходах і ў пікетах. Выбарчыя тэхналогіі, якія сёння дзейнічаюць у Польшчы, для нас пакуль малапрыдатныя.

❹ 20 кастрычніка ў вядомым на цэлы свет польскім горадзе Чэнстахове праходзіла XI Тэатральная ноч, якая была прысвечана культуры Расіі і Беларусі. Беларуская тэма прысутнічала ў спектаклі беластоцкай тэатральнай трупы і ў фотавыстаўках студэнтаў-этнографаў Варшаўскага універсітэта пад кіраўніцтвам Ганны Энгелькінг. «Проста беларуская вёска» — так называлася гэтая выстава, якая была аздоблена пэўнымі прадметамі сучаснага быту беларускай вёскі: алюмініевым відэльцам, бутэлькай піва, парафінавымі свечкамі і г.д. Прадстаўнікі чэнстахоўскэй і варшаўскай культурнай эліты часам у задуменні спыняліся каля гэтай выставы, узіраліся ў здымкі з гаротных беларускіх вёсак, нечым цікавіліся і праходзілі ў задуменні... Магчыма, не столькі з-за ўсведамлення этнаграфічнай рознасці польскіх і беларускіх вёсак, колькі з-за цывілізацыйнай прорвы паміж імі. У тым кантэксце гэта выглядае сапраўды так.

Тым не менш, этнографы Ганны Энгелькінг зусім не імкнуліся «згусціць фарбы», яны проста здымалі падчас сваіх шматлікіх вандровак па Гродзеншчыне і Берасцейшчыне...

У бліжэйшы час Ганна Энгелькінг мае намер правесці яшчэ адну фотавыстаўку, якая будзе складацца з вельмі якасных здымкаў, зробленых у 30-х гадах на Беларускім Палессі вядомым польскім этнографам Юзафам Амбрэмскім і ў 90-х там жа — групай Г. Энгелькінг. Здымкі гэтыя вельмі ўражваюць. Не ведаю, як палякаў, а беларусаў — дакладна.

❺ У польскіх СМІ на ўсе лады абмяркоўваецца прэзідэнцкая гонка. Сярод іншых абмеркавана было і пытанне: як будуць галасаваць прадстаўнікі нацыянальных меншасцей. Газета «Жэчпосполіта» з гэтай нагоды піша, што сярод беларусаў агітацыю праводзіў толькі лідэр левых Аляксандр Квасьнеўскі. І не дарэмна. Бо, на думку старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Яна Сычэўскага, на Беласточчыне толькі левы кандыдат можа атрымаць масавую падтрымку. Хаця рэальна польска-беларускія адносіны скрануў з месца Ян Альшэўскі — антыкамуніст і лідэр патрыятычнага лагера. На мінулых выбарах Беласточчына падтрымала левага У. Цімашэвіча... «Гэта Валодзька з нашых!» — гучала ў беластоцкіх вёсках. «Аднак, разглядаючы сітуацыю больш сур'ёзна, можна зразумець, што ў левым кандыдаце найбяднейшыя са спустошаных усходніх асад прагнуць убачыць свой шанц», — піша «Жэчпосполіта». «Вёска адчувае цывілізацыйны крыўду, — сцвярджае Ян Сычэўскі, — кожны беларус шукае найперш не ідэалагічных, а гаспадарчых выйсцяў... Хоць не варта забываць і аб культуры меншасці. Меншасцям дзяржаўны грош капае мізэрна».

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# ПОМНІК З ПЛОШЧЫ — НАРОДУ ЛЯГЧЭЙ?

**Згодна з інфармацыяй, атрыманай агенцтвам РІД ад кіраўніка прэс-цэнтра Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Уладзіміра Мацкевіча, Агенцтва гуманітарных тэхналогій (АГТ) прадаставіла кіраўніцтву АГП для азнаямлення сваю работу «Семіятычнае асяроддзе Рэспублікі Беларусь».**

У прыватнасці, у матэрыялах, дзе даецца апісанне семіятычнага (знакавага) асяроддзя нашай краіны, прыводзіцца такі цікавы прыклад: «Бяднейшай краінай Еўропы 80-х гадоў была Албанія, дзе помнікі Сталіну захаваліся некранутымі. Сёння Беларусь — апошняя краіна ў Еўропе, дзе захаваліся на сваіх месцах помнікі Леніну, а за тэмпах падзення ўзроўню жыцця і па абсалютных паказчыках галечы РБ у 1995 годзе апярэдзіла Албанію. Сёння Беларусь — самая бедная ў Еўропе краіна, за выключэннем разбуранай вайной Босніі».

**Віталь ПАДЛОЗНЫ, РІД.**

# *ПОЛЬШЧА МАЕ НОВАГА ПРЭЗЫДЭНТА*

19 лістапада 1995 г. палякі выбралі сабе новага прэзыдэнта — Александра Квасьнеўскага.

За новага прэзыдэнта галасавала 51,72% выбаршчыкаў. На Леха Валэнсу — 48,28%. Удзел у галасаваньні прыняло 68,23% насельніцтва Польшчы. Гэта найбольшы працэнт ад 1989 г.

Цікава, што на Беласточчыне Л. Валэнса атрымаў 51,94% да 48,06% для А. Квасьнеўскага.

Кажуць, жартам ці мо сур'ёзна, што на Беласточчыне ў страху перад польскімі шавіністычнымі ксяндзамі, праваслаўныя галасавалі за Валэнсу... Вось цо-да, пане дабрадзею!..

# Нам пішуць... Нас пытаюць...

Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую за "Беларускі Дайджэст". Пасылаю ахвяру... Шкода, што Вы ня хочаце друкаваць у газэце колькі людзі дараць. Няма канкурэнцыі. З пашанай, К. В.

*За ахвяру дзякуем. Што да Вашае ідэі і канкурэнцыі — падумаем. Цяпер вывучаем апініі нашых чытачоў...*

В. Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую за "Беларускі Дайджэст". Ён мне вельмі падабаецца, і лічу яго адным з лепшых беларускіх выданьняў на эміграцыі. Хай Вам дапамагае Бог у Вашай працы.

Хачу прасіць высылаць газэту майму сябру, які будзе Вам вельмі ўдзячны за гэта. Яго адрас...

Далучаю таксама маю ахвяру на далейшае выданьне газэты. З павагаю і найлепшымі пажаданьнямі М. К.

*За ахвяру і новы адрас, дзякуем. Мы заўсёды вітаем новых чытачоў газэты, бо толькі такім чынам мы будзем у стане разбудаваць нашае выданьне.*

Дарагі Мікола!

Прабачце, што крыху запазьніліся, але ўсё-ж сабралі ў нашым асяродзьдзі крыху грошаў на выданьне газэты. Вы раней успаміналі: "Як дбаеш, тое і маеш". Бяз розьніцы, тут ці ў Беларусі, адны хочуць дапамагчы, а другія даюць каб адчапіцца, маўляў — больш ня пытай... Беларус — няўтомны змагар — ашчаднік сваёй кішэні.

Жадаем усяго найлепшага, а гэта добрага здароўя Ў Вашай працы на карысьць нашай дарагой Бацькаўшчыне Беларусі. Ул. Р.

*Шчырая падзяка Вам Усім за тое, што Вы робіце, каб дапамагчы нашаму выданьню. Няхай Вас Бог узнагародзіць.*

Паважаны Сп. Прускі!

Я вельмі ўдзячны Вам за рэгулярную дасылку "Беларускага Дайджэста". Ваша газэта на сучасны час вельмі патрэбная і карысная, таму жадаю Вам найлепшых посьпехаў у працы. Пры гэтым перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты.

З пашанай, Я. Ш.

*Таксама і Вам жадаем усяго найлепшага. Дзякуем.*

Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!

Газэта "Беларускі Дайджэст" падае шмат вестак з Беларусі і таму яна цікавая. Лісты чытачоў у газэту таксама цікавыя. Прачытаўшы некаторыя артыкулы я пачуваюся духова ўзьнятым і ганаруся, што ў нас на Беларусі ёсьць людзі, якія не баяцца бараніць сваю мову і беларускі народ ад гібелі. Усе дзяржавы ў Эўропе вольныя, а чаму на Беларусь навалілася такое ліха, якое пхае наш край у няволю. Прачытаў вельмі цікавы артыкул Ніла Гілевіча. Ён зразумела хоча, каб кожны беларус і беларуска жылі вольным жыцьцём і ганарыліся сваёй мовай і краем. Але астаткі бальшавіцкага рэжыму ня хочуць каб Беларусь была незалежнаю. Заходні сьвет бачыць і ведае, што творыцца ў Беларусі... Кождаму відавочна, як прэзыдэнт Беларусі палошча мазгі людзям у мутнай вадзе і стараецца весьці народ назад у маскоўскую няволю. Я ня ведаю, якую ўладу мае на Беларусі цяперашняя Расея. Заходняя граніца даволі шчыльна закрыта, а ўсходняя адкрытая для ўсіх прайдзісьветаў. А вось мяне цікавіць яшчэ ці будуць з Беларусі вывозіць "ненадёжных" у Сібір, як гэта было пры цары і Сталіне... А можа паразумнеўшыя людзі ў Вярхоўнай Радзе Беларусі пачнуць карыстацца правам і Канстытуцыяй і не дапусьцяць да таго, каб зноў вывозілі людзей у Сібір... З пашанай, К. В.

*Як відаць, Вы моцна перажываеце за лёс Беларусі. Такіх людзей у Замежжы вельмі многа. Трэба спадзявацца, што беларускі народ пачне больш сябе паважаць і цаніць сваю незалежнасьць..*

Здароў Дарагі Мікола!

Здаецца Сп. Л. пісаў Табе, што я маю перасланиць ахвяру на "Беларускі Дайджэст". Пры гэтым перасылаю гэтую ахвяру ад яго і ад сябе таксама.

Як напэўна ведаеш, 22 кастрычніка мы ладзілі ў Нью Ёрку дэманстрацыю супраць Лукашэнкі. Дэманстрацыя была запраўды ўдалай. У ёй прынялі ўдзел усе беларускія арганізацыі... Для цікавасьці залучаю некалькі здымкаў і ўлёткаў з дэманстрацыі...

Так, як Табе і пішуць, — газэта запраўды цікавая. Дай Божа Табе сілы і добрага здароўя. Твой, В. К.

*Дзякую за ахвяры, інфармацыю і добрыя словы. Таксама жадаю ўсяго найлепшага.*

(Гл. далей на бач. 12.)

January
## СТУДЗЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| M | ПН | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Tu | АТ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| W | СР | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Th | ЧЦ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| F | ПТ | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Sa | СБ | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| SU | НД | 7 | 14 | 21 | 28 | |

February
## ЛЮТЫ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| АТ | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| СР | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ЧЦ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ПТ | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| СБ | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| НД | 4 | 11 | 18 | 25 | |

March
## САКАВІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| АТ | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| СР | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ЧЦ | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ПТ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| СБ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| НД | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

April
## КРАСАВІК

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| M | ПН | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Tu | АТ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| W | СР | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Th | ЧЦ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| F | ПТ | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Sa | СБ | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| SU | НД | 7 | 14 | 21 | 28 | |

May
## МАЙ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| АТ | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| СР | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ЧЦ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ПТ | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| СБ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| НД | 5 | 12 | 19 | 26 | |

June
## ЧЭРВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| АТ | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| СР | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| ЧЦ | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ПТ | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| СБ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| НД | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

July
## ЛІПЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| M | ПН | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Tu | АТ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| W | СР | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Th | ЧЦ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| F | ПТ | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Sa | СБ | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| SU | НД | 7 | 14 | 21 | 28 | |

August
## ЖНІВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| АТ | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| СР | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ЧЦ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ПТ | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| СБ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| НД | 5 | 12 | 19 | 26 | |

September
## ВЕРАСЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| АТ | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| СР | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ЧЦ | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| ПТ | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| СБ | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| НД | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

October
## КАСТРЫЧНІК

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| M | ПН | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Tu | АТ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| W | СР | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Th | ЧЦ | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| F | ПТ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Sa | СБ | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| SU | НД | 6 | 13 | 20 | 27 | |

November
## ЛІСТАПАД

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| АТ | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| СР | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ЧЦ | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ПТ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| СБ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| НД | 3 | 10 | 17 | 24 | |

December
## СНЕЖАНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| АТ | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| СР | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ЧЦ | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| ПТ | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| СБ | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| НД | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |






### Нам пішуць...

Дарагі а Вельміпаважаны Сп-ру Прускі!

Дужа дзякую за перасланыя мне матэрыялы. Лягчэй на сэрцы ўбачыўшы, што Лукашэнку ўсё яшчэ ня зусім удалося заглушыць незалежную прэсу ў імя ягоных асабістых амбіцыяў. Высылаю ахвяру ў дапамогу выдавецтву. Зьбіраюся выслаць хоць крыху на музэй у Гайнаўцы... З пашанай, М. С.

*Паважаны і Дарагі М. С.! Мы вельмі ўдзячныя Вам за шчырую дапамогу, спагаду і дабразычлівасьць. Няхай Бог узнагародзіць Вас здароўем і апекай.*

Паважаны М. Прускі!

Дзякую за перасылку мне "Беларускага Дайджэста". Залучаю ахвяру на выдавецтва.

Можа варта было-б публікаваць больш артыкулаў у ангельскай мове? Я толькі пачынаю вучыцца добра чытаць па-беларуску.

Хацелася-б мець назвы і адрасы кнігарняў і арганізацыяў, якія прадаюць беларускія кнігі, асабліва кнігі пра Беларусь і яе гісторыю. З пашанай, Т. П.

*Дзякуем за ахвяру. Пры нагодзе пазванеце да нас. Пазьней мы пастараемся Вам нешта даслаць. Больш артыкулаў у ангельскай мове? Мы Вас разумеем і будзем старацца ў гэтым напрамку нешта рабіць.*

Паважаны Сп. М. Прускі!

Сп. М. С. ад нейкага часу даваў мне чытаць выдаваную Вамі газэту... Але зацікавіў мяне апошні нумар газэты. Вырашыў пераказаць Вам падтрымку. Паколькі ня маю магчымасьці атрымліваць некаторых газэт непасрэдна з Беларусі, а Вы падаеце некаторыя артыкулы з паасобных газэт, выдаваных у Менску, гэта дае магчымасьць даведацца, што піша апазыцыя супраць Лукашэнкі ды яго клікі. Слухаю радыёперадачы "Свабода", але гэтага мала, каб ведаць што там творыцца... Жадаю ўсім добрага здароўя ды памысьнасьці ў жыцьці. З падзякай і пашанай, А. Л.

*Дзякуем за ліст, ахвяру і зацікаўленасьць нашай газэтай. Толькі агульнымі сіламі мы зможам зрабіць нашу газэту цікавай і сталай.*

### НЕКАТОРЫЯ СЬВЯТЫ на БЕЛАРУСІ

25-га Сьнежня — Каляды (кат.)
7-га Студзеня — Каляды (прав.)
8-га Сакавіка — Дзень Жанчын
15-га Сакавіка — Дзень Канстытуцыі Беларусі
25-га Сакавіка — Дзень Незалежнасьці (гіст.)
14-га Красавіка — ВЯЛІКДЗЕНЬ
27-га Мая — Дзень Незалежнасьці (новы)
2-га Лістапада — Дзень Памяці (Дзяды)